Пралетарыі ўсіх краін, злучайцеся!



СУВЯЗЬ САВЕЦКІХ ОРГАНАЎ ПАМІЖ САБОЙ І МАСАМІ—АСНОВА САВЕЦКАГА БУДАЎНІЦТВА.

# БЮЛЕТЭНЬ

## САВЕТУ НАРОДНЫХ КАМІСАРАЎ БЕЛАРУСКАЕ ССР

10 МАЯ 1927 г.

№ 9 (34)

3-ці год ВЫДАНЬНЯ

ВЫДАНЬНЕ СНК БССР
МЕНСК—1927 г.

# З Ь М Е С Т.

## Частка афіцыйная.

Стар.

## Частка неафіцыйная.





## 1. Пастанова Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту і Савету Народных Камісараў БССР

АБ АДЗІНЫМ СЕЛЬСКА-ГАСПАДАРЧЫМ ПАДАТКУ*).

На падставе Палажэньня аб адзіным сельска-гаспадарчым падатку, зацьверджанага ЦВК і СНК СССР 2-га красавіка 1927 г. („Изв. ЦИК СССР“ за 1927 г., № 76), Цэнтральны Выканаўчы Камітэт і Савет Народных Камісараў БССР пастанаўляюць:

1. Па ўсёй тэрыторыі БССР адзіным сельска-гаспадарчым падаткам абкладаюцца даходы: а) ад галоўных галін сельскае гаспадаркі: паляводзтва, лугаводзтва, буйнае рагатае і рабочае жывёлы; б) ад другарадных галін сельскае гаспадаркі: сьвінагадоўлі, садоўніцтва, гародніцтва і в) ад неземляробчых заработкаў.

2. Даходы ад аўчарства, пчалярства і птушніцтва, якія маюць прамысловы характар, абкладаюцца адзіным сельска-гаспадарчым падаткам у тых мясцовасьцях, у якіх гэта будзе прызнана патрэбным акруговымі выканаўчымі камітэтамі.

*Уваіа* 1. Даходы ад пчалярства, калі ў гаспадарцы ёсьць ня больш як 5 рамачных альбо 5 калодных вульляў, адзіным сельска-гаспадарчым падаткам не абкладаюцца.

*Уваіа* 2. Даходы ад садоўніцтва і гародніцтва не абкладаюцца адзіным сельска-гаспадарчым падаткам, калі плошча саду, альбо гароду не перавышае ў гаспадарцы:

| | У сельскіх мясцовасьцях: | У гарадох: |
|---|---|---|
| саду | —1/4 дзес. | 1/8 дзес. |
| гароду | —1/4 „ | 1/8 „ |

У гэтым выпадку плошча саду і гароду прылічваецца да плошчы пахаці (засеву) і абкладаецца на агульных з ёй падставах.

3. Для вызначэньня разьмераў абкладаемых даходаў ад галоўных галін сельскае гаспадаркі, пералічаных у арт. 1-ым, устанаўляюцца наступныя сярэднія нормы абкладаемага даходу:

| Акругі | Сярэднія нормы абкладаемага даходу ў руб. | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | 1 дз. пахаці | 1 дз. засеву. | 1 дз. заліўнога лугу. | 1 дз. незаліўнога лугу. | 1 гал. быдла ст. за 3 гады. | 1 каня стар. за 4 гады. | 1 вала стар. за 4 гады. |
| Бабруйская | 35 | 53 | 28 | 17 | 19 | 22 | 13 |
| Барысаўская | 30 | 45 | 25 | 16 | 18 | 20 | 13 |
| Віцебская | 33 | 51 | 25 | 16 | 21 | 25 | 13 |
| Гомельская | 36 | 54 | 29 | 20 | 20 | 22 | 13 |
| Калінінская | 31 | 47 | 26 | 16 | 18 | 21 | 13 |
| Менская | 37 | 56 | 25 | 18 | 21 | 25 | 13 |
| Магілёўская | 36 | 54 | 30 | 18 | 19 | 22 | 13 |
| Мазырская | 28 | 42 | 25 | 17 | 16 | 19 | 13 |
| Аршанская | 35 | 53 | 30 | 15 | 19 | 22 | 13 |
| Полацкая | 30 | 45 | 24 | 15 | 18 | 21 | 13 |
| Рэчыцкая | 34 | 51 | 30 | 18 | 18 | 22 | 13 |
| Слуцкая | 40 | 60 | 22 | 16 | 21 | 25 | 13 |

*) Апублікавана ў газ. „Савецкая Беларусь“ за 1-га мая 1927 г. № 97(1989).

4. На падставе паказаных у арт. 3 норм даходнасьці акруговыя выканаўчыя камітэты павінны вызначыць цьвёрдыя нормы абкладаемага даходу для раёнаў, паасобных саветаў, а ў паасобных выпадках—для сяленьняў. Пры гэтым не павінны зьмяняцца сумы абкладаемага даходу ад кожнае галіны сельскае гаспадаркі, вылічаныя па сярэдніх нормах даходнасьці ўстаноўленых для акругі.

*Увага.* Акруговым выканаўчым камітэтам даецца права пераходзіць да абкладаньня даходаў ад паляводзтва ня толькі па пахаці, але і па плошчы пасеву.

5. Для другарадных галін сельскае гаспадаркі ўстанаўляюцца наступныя арыентовачныя нормы даходнасьці:

| Акругі | Арыентовачныя нормы даходнасьці ў руб. | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | 1 сьвіньні ст. за 8 месяц. | 1 дз. саду | 1 дз гароду | 1 авечкі перазім. | 1 вульля рамачнага | 1 вульля калоднага |
| Бабруйская . . . | 7 | 175 | 190 | 1 | 5 | 2 |
| Барысаўская . . . | 6 | 135 | 165 | 1 | 5 | 2 |
| Віцебская . . . | 8 | 175 | 200 | 1 | 5 | 2 |
| Гомельская . . . | 7 | 175 | 200 | 1 | 5 | 2 |
| Калінінская . . . | 6 | 170 | 165 | 1 | 5 | 2 |
| Менская . . . | 8 | 180 | 205 | 1 | 5 | 2 |
| Магілёўская . . . | 7 | 200 | 200 | 1 | 5 | 2 |
| Мазырская . . . | 6 | 150 | 175 | 1 | 5 | 2 |
| Аршанская . . . | 7 | 180 | 200 | 1 | 5 | 2 |
| Полацкая . . . | 7 | 140 | 200 | 1 | 5 | 2 |
| Рэчыцкая . . . | 7 | 170 | 175 | 1 | 5 | 2 |
| Слуцкая . . . | 8 | 185 | 200 | 1 | 5 | 2 |

Кіруючыся гэтымі нормамі, акруговыя выканаўчыя камітэты па ўзгадненьні з раённымі выканаўчымі камітэтамі павінны ўстанавіць цьвёрдыя нормы абкладаемага даходу ад пералічаных галін сельскае гаспадаркі для тых мясцовасьцяй, дзе гэтыя даходы абкладаюцца.

6. Абкладаемыя адзіным сельска-гаспадарчым падаткам даходы ад незямляробчых заработкаў (саматужна-рамесных заняткаў, лясных распрацовак, заработнае платы і інш.), для кожнае паасобнае гаспадаркі вызначаюцца раённымі падатковымі камісіямі на падставе першапачатковых зьвестак, якія падаюцца сельскімі падлічальнымі камісіямі, і інш. зьвестак аб фактычным разьмеры гэтых заработкаў за мінулы акладны год.

7. З фактычных сум незямляробчых даходаў залічваецца ў абкладаемы адзіным сельска-гаспадарчым падаткам даход:

з заработнае платы рабочых і служачых, якія жывуць на гаспадарцы—15 проц.;

з заработнае платы рабочых і служачых, якія ня жывуць у гаспадарцы, а таксама з такіх, якія ідуць на часовыя работы—10 проц.

8. Для палягчэньня разьвіцьця саматужна-рамесных заняткаў на вёсцы даход ад гэтых заработкаў абкладаецца адзіным сельскагаспадарчым падаткам ня ў поўнай суме, а ў частцы, якая вызна-

чаецца акруговым выканаўчым камітэтам, выходзячы ў сярэднім з 40 проц. Пры гэтым для каапэраваных саматужнікаў акруговыя выканаўчыя камітэты павінны вызначыць зьніжаны % заработкаў, якія падлягаюць абкладаньню.

9. Раённым падатковым камісіям даецца права звальняць ад абкладаньня адзіным сельска-гаспадарчым падаткам неземляробчыя даходы паасобных бяднейшых гаспадарак.

10. Для заахвочваньня сялянства да павялічэньня сеяньня лёну і канаплі, даходы ад плошчаў, занятых гэтымі культурамі, залічваюцца ў абкладаемы даход са скідкаю 50 проц. з норм даходнасьці.

11. Ва ўсіх акругах БССР даходы ад арандаваных зямель незалежна ад формы арэнды (грашовая ці на часткі), залічваюцца ў абкладаемы даход са скідкаю 25 проц. з норм даходнасьці.

12. Не абкладаюцца адзіным сельска-гаспадарчым падаткам гаспадаркі, у якіх сума даходаў, падлічаных да абкладаньня, не перавышае:

пры 1—2 едаках— 90 руб.
„ 2—4 „ —100 „
„ 5 і больш —110 „

Апрача таго, бяднейшыя гаспадаркі, не атрымаўшыя льготы ў парадку гэтага артыкулу, звальняюцца ад падатку раённымі падатковымі камісіямі за лік асобнага скідачнага фонду, які даецца на іх распараджэньне. Гэты фонд раённыя падатковыя камісіі павінны выкарыстаць не пазьней за пачатак збору адзінага сельска-гаспадарчага падатку.

13. Для выплаты адзінага сельска-гаспадарчага падатку па ўсіх акругах устанаўляюцца наступныя тэрміны:

да 1-га лістапада 1927 г. . . . . 30 проц. належнай сумы
да 1-га студзеня 1928 г. . . . . 50 проц. „ „
да 1-га сакавіка 1928 г. астатнія . 20 проц. „ „

*Увага.* Акруговым выканаўчым камітэтам даецца права скарачаць гэтыя тэрміны для паасобных раёнаў і саветаў ня больш, як на 20 дзён у параўнаньні з тэрмінамі, устаноўленымі для акругі, аднак % падатку, які павінен паступіць у тэрмін, устаноўлены для акругі, ня можа быць зьменшан.

14. Не пазьней за 10 мая акруговыя выканаўчыя камітэты павінны выдаць абавязковыя пастановы, у якіх вызначыць:

а) нормы абкладаемага даходу для раёнаў, паасобных саветаў і сяленьняў, прадугледжаныя арт. арт. 4 і 5 гэтае пастановы;

б) тэрміны выплаты адзінага сельска-гаспадарчага падатку для раёнаў, паасобных саветаў і сяленьняў;

в) раёны, у якіх абкладаюцца адзіным сельска-гаспадарчым падаткам даходы ад другарадных галін сельскае гаспадаркі, пералічаных у арт. 2 гэтае пастановы;

г) катэгорыі неземляробчых заработкаў, якія, на падставе арт. 11 літ. „а“ Палажэньня аб адзіным сельска-гаспадарчым падатку, не абкладаюцца адзіным сельска-гаспадарчым падаткам, а абкладаюцца прамысловым і падаходным падаткамі;

д) парадак абкладаньня адзіным сельска-гаспадарчым падаткам сельскіх гаспадарак на гарадзкіх землях, згодна арт. 5 Палажэньня аб адзіным сельска-гаспадарчым падатку;

е) раёны, у якіх даходы ад паляводзтва абкладаюцца па плошчы пасеву;

ж) тэрмін і парадак падліку аб'ектаў абкладаньня, налічэньня акладаў, уручэньня акладных лістоў, падачы і разгляду скарг па адзіным сельска-гаспадарчым падатку.

*Увага.* Апублікаваныя ў абавязковай пастанове акруговага выканаўчага камітэту нормы абкладаемага даходу і тэрмін выплаты адзінага сельска-гаспадарчага падатку на працягу акладнога году ня могуць зьмяняцца.

15. Падлік аб'ектаў абкладаньня павінен пачацца па ўсіх акругах не пазьней за 20 мая і скончыцца 20 ліпеня, а работы па накладаньні сумы адзінага сельска-гаспадарчага падатку і адданьню акладных лістоў павінны скончыцца не пазьней за 25-га жніўня.

16. Народнаму Камісарыяту Грашовых Спраў даручаецца правядзеньне ў жыцьцё гэтае пастановы і выданьне правіл і тлумачэньняў аб яе ўжываньні.

Старшыня Цэнтральнага Выканаўчага
Камітэту БССР **А. Чарвякоў.**

Старшыня Савету Народных Камісараў БССР **Яз. Адамовіч.**

Сэкратар Цэнтральнага Выканаўчага
Камітэту БССР **А. Хацкевіч.**

25 красавіка 1927 г.
г. Менск.

---

## 2. Абежнік Народнага Камісарыяту Земляробства БССР

### АБ УВЯЗЦЫ ЗЕМЛЯЎПАРАДЧЫХ МЕРАПРЫЕМСТВАЎ З ГАСПАДАРЧЫМ УПАРАДКАВАНЬНЕМ НАСЯЛЕНЬНЯ.

*Акруговым Зямельным Аддзелам.*

У правадзімых да гэтага часу земляўпарадчых мерапрыемствах на мясцох амаль што ўсюды наглядаецца адсутнасьць выстарчальнай увязкі земляўпарадкаваньня з гаспадарчым упарадкаваньнем насяленьня. Апроч аб'ектыўных прычын, якія не залежаць ад зямельных органаў, як напрыклад: невыстарчальны лік аграномаў, невыстарчальны разьмер крэдытнай дапамогі (грашовай і лесаматар'яламі) і г. д.,—прычынай гэтай няўвязкі зьяўляецца таксама і тое, што зямельныя органы не зварачаюць на гэта пытаньне належнай увагі. Вельмі часта зямельныя працаўнікі і ўасаблівасьці—земляўпарадчыкі разглядаюць земляўпарадкаваньне толькі як тэхнічную рэарганізацыю тэрыторыі ў сэнсе скасаваньня цераспалосіцы, дальнязямельля і г. д., ня прымаючы пад увагу таго, што нават пры максімальным прыбліжэньні землякарыстальніка да зямлі, усё-ж гаспадарка ня можа хутка разьвівацца без правядзеньня цэлага шэрагу мер агра-эканамічнага парадку. У асаблівасьці гэта тычыцца малазаможных гаспадарак. З прычыны такога няправільнага погляду цэлы шэраг гаспадарак пасьля правядзеньня земляўпарадчых работ прадастаўляюцца самім сабе і ў выніку гэтага ва многіх пасёлках, якія лічацца ўжо земляўпарадкаванымі, наглядаецца, як і раней, тая самая трохполка, пераносяцца старыя, на палову згніўшыя будынкі, якія апроч таго амаль-што ўсюды ставяцца без належнай распляніроўкі.

Каб пазбавіцца падобнага роду земляўпарадкаваньня на далейшы час, Народны Камісарыят Земляробства гэтым прапануе ўсім земляўпарадчыкам і аграномам зьвярнуць асаблівую ўвагу на ўвязку правадзімага земляўпарадкаваньня з гаспадарчым упарадкаваньнем сялянскага землякарыстаньня. У гэтых мэтах неабходна зараз-жа пасьля складаньня земляўпарадчага праэкту земляўпарадчыку сумесна з аграномам, а па магчымасьці і з прадстаўніком крэдытнай каапэрацыі, вызначыць па кожнаму ўноў створанаму сельска-гаспадарчаму аб'яднаньню разьмер той дзяржаўнай дапамогі, якая патрэбна для хутчэйшага разьвіцьця земляўпарадкаваных гаспадарак. Пры гэтым павінен быць складзен пэрсанальны сьпіс усіх гаспадарак, якія маюць патрэбу ў дзяржаўнай дапамозе, з вызначэньнем як разьмеру яе па кожнай гаспадарцы, так і відаў гэтай дапамогі (грашовыя пазыкі на пабудаваньне будынкаў, пазыкі насеньнем, лесаматар'яламі і г. д.)

Далей неабходна мець на увазе, што роля ўпаўнаважаных па земляўпарадкаваньню, выбраных грамадой, канчаецца ўсьлед за правядзеньнем земляўпарадчых работ і ў сувязі з гэтым, у мэтах забароны інтарэсаў ўноў створаных сельска-гаспадарчых аб'яднаньняў, павінны быць па кожнаму пасёлку выбраны на агульных сходах асобныя ўпаўнаважныя ў ліку 1—2-х найбольш актыўных гаспадароў. Выбары ўпаўнаважаных павінны па магчымасьці праводзіцца ў прысутнасьці агранома і дзейнасьць гэтых упаўнаважаных павінна накіроўвацца на культурную сельска-гаспадарчую работу.

Прымаючы пад увагу, што разьмеры дзяржаўнай дапамогі абмежаваны па кожнаму раёну ўстаноўленымі сумамі, належыць пры складаньні сьпіскаў устанавіць чарговасьць дачы пазык у залежнасьці ад матар'яльнага становішча, прычым у першую чаргу павінны быць прыняты пад увагу сем'і чырвонаармейцаў. Разам з гэтым прадастаўляемыя крэдыты нельга распыляць вельмі малымі сумамі. Крэдытная дапамога павінна давацца ў такім разьмеры, каб у кожным асобным выпадку атрымаць значны гаспадарчы вынік. Адначасова неабходна праводзіць прынцып калектыўнага крэдытаваньня пасёлкаў у мэтах набыцьця дарагіх сельска-гаспадарчых машын, для закладкі грамадзкага саду, пабудовы хаты-чытальні і г. д. Насяленьню неабходна растлумачыць усе перавагі аб'яднаньня ў юрыдычна-правамоцныя адзінкі на грунце, напрыклад, пасёлкава-каапэрацыйнага статуту ў мэтах здавальненьня сваіх гаспадарчых патрэб.

Пасылаючы гэтыя ўказаньні для кіраваньня ў далейшай працы па гаспадарчаму ўпарадкаваньню вёскі, Народны Камісарыят Земляробства лічыць неабходным, каб кожны раён паставіў сабе ўдарнай задачай стварыць да дня 10-й гадавіны Кастрычнікавай Рэвалюцыі хоць-бы 2—3 паказальных пасёлкі-каапэратывы.

Нам. Народнага Камісара Земляробства БССР **Я. Валодзька.**

Начальнік Кіраўніцтва Земляўпарадкаваньня,
Мэліарацыі і Дзяржаўных Зямельных
Маемасьцяй НКЗ БССР **А. Шычко.**

28 красавіка 1927 г.
№ 23.

Зацьвердзіць.
Нам. Народнага Камісара Земляробства БССР
Я. ВАЛОДЗЬКА.
8 красавіка 1927 г.

## 3. Інструкцыя аб адводзе вучасткаў зямлі пад пасекі і для пасеву мёданосных расьлін у дзяржаўных лясох і на землях запаснага фонду БССР.

### 1. ПАСЕЧНАЕ ПЧАЛЯРСТВА.

1. Права на атрыманьне вучасткаў зямлі пад пасекі і для пасеву мёданосных расьлін у дзяржаўных лясох і на землях запаснага фонду БССР даецца як пчалярскім каапэрацыйным аб'яднаньням, таварыствам, арцелям і г. д., так і прыватным уласьнікам пасек, пры ўмове ўваходу іх у пчалярскія каапэрацыйныя аб'яднаньні і пры ўмове рацыянальнага вядзеньня пчалярства, пры чым ва ўсіх выпадках перавага даецца бяднейшаму насяленьню.

2. Адвод зямельных вучасткаў пад пасекі і для пасеву мёданосных расьлін у дзяржаўных лясох робіцца мясцовымі лясьніцтвамі, а на землях запаснага фонду—акруговымі зямельнымі аддзеламі, куды пчалярскім аб'яднаньням і пчаляром належыць зварочвацца з сваімі заявамі.

3. Разьмер вучасткаў зямлі для пасек вызначаецца наступны: 1) для пасек да 25 сямей—ня менш $1/2$ дзес., 2) да 50 сямей—ня менш 1 дзес. і 3) да 100 сямей і вышэй—ня менш 2-х дзес. Для пасеву мёданосных расьлін: для пасекі да 50 сямей—1 дзес. і да 100 сямей—2 дзес.

*Увага.* Вучасткі, адведзеныя для пасеву мёданосных расьлін павінны засявацца гэтымі апошнімі, як напрыклад: грэчкаю, канюшынаю, сэрадэлаю, фацэльляю, доньнікам і інш. мёданоснымі расьлінамі.

4. Вучасткі здаюцца па дагавору на 5 год, па сканчэньні якіх тэрмін карыстаньня вучасткам можа быць прадоўжаны на наступнае пяцігодзьдзе, пры ўмове, калі гэтыя вучасткі на патрэбуюцца для дзяржаўных мэт.

5. Арэндная плата за карыстаньне пасечнымі вучасткамі і вучасткамі для пасеву мёданосных расьлін у дзяржаўных лясох і на землях запаснага фонду не бярэцца.

6. Адданы пчаляру на зямлі запаснага фонду ў дарэмнае карыстаньне пасечны вучастак, пры земляўпарадкаваньні, па заяве пчаляра, пры наліччы ў месцы, дзе знаходзіцца пасека, вольнае зямельнае плошчы, можа быць павялічаны да працоўнае нормы і адданы пчаляру ў працоўны надзел.

7. У дзяржаўных лясох месцы для пасек адводзяцца пераважна на ўзьлесках лясоў і на ўскраінах, якія прылягаюць да зямельных плошчаў, альбо да пустых месц; унутры-ж лясных дач вучасткі пад пасекі адводзяцца па краёх палян і на самых палянах, але так, каб пасекі не перашкаджалі лясной гаспадарцы, вядзеньню лясных культур і не займалі плошчаў, пакрытых надзейныміляснымі ўсходамі.

8. Межы адведзеных пад пасекі вучасткаў азначаюцца ў натуры яснымі знакамі: слупамі, ямамі, зацёсамі на дрэвах і інш. Калі пчаляр захоча абвясьці адведзены пад пасеку вучастак канаваю, альбо абгарадзіць плотам ці парканам, то лясьніцтва яму ў гэтым не павінна перашкаджаць.

9. Адлегласьць паміж пасекамі павінна быць ня менш як тры (3) кілёмэтры (каля 3-х вёрст).

10. Пры падачы пчалярамі заяў аб адводзе вучасткаў пад пасеку альбо для пасеву мёданосных расьлін павінны быць прадстаўлены:

а) пасьведчаньне мясцовага пчалярскага каапэрацыйнага аб'яднаньня аб тым, што заяўнік зьяўляецца членам пчалярскага таварыства і б) пасьведчаньне сельскага савету аб наліччы і колькасьці ў заяўніка сямей пчол.

11. Пчалярскаму каапэрацыйнаму аб'яднаньню і пчаляру, дапушчаным да пастаноўкі пасек у дзяржаўных лясох, выдаецца асобны білет для паказаньня асобам, якія рэвізуюць лясьніцтва.

12. Пры заключэньні дагавору пчалярскаму аб'яднаньню і пчаляру прад'яўляюцца выдадзеныя Лясным Кіраўніцтвам Народнага Камісарыяту Земляробства, альбо Акруговым Зямельным Аддзелам, паводле гэтае інструкцыі, правілы карыстаньня адведзеным зямельным вучасткам. Адзін экзэмпляр гэтых правіл, падпісаны пчалярскім аб'яднаньнем ці пчаляром, застаецца ў Лясьніцтве ці ў Акруговым Зямельным Аддзеле, а другі—выдаецца пчалярскаму аб'яднаньню ці пчаляру разам з білетам, які хаваецца на відным месцы ў памяшканьні асобы, кіруючай пасекаю.

13. Перадача вучастку ў другія рукі да сканчэньня тэрміну карыстаньня вучасткам можа быць зроблена толькі з дазваленьня Акруговага Зямельнага Аддзелу. У такім выпадку пчаляр павінен заявіць лясьнічаму ці Акруговаму Зямельнаму Аддзелу аб перадачы свайго права на вучастак на дагаворны тэрмін другой асобе, а гэта асоба павінна прадставіць паказаныя ў § 10 пасьведчаньні і падпісаць дагаворныя абавязкі і правілы.

14. У граніцах адведзенага пад пасеку вучастку пчалярскаму аб'ядананьню або пчаляру дазваляецца будаваць для вартаваньня жылыя памяшканьні, а таксама гаспадарчыя: павеці, імшанікі, каморы для захаваньня парожніх вульляў, пчалярскага інвэнтару, прадуктаў пчалярства і інш.

*Увага.* Жыльлёвыя памяшканьні для варты могуць быць пабудаваны з дазволу лясьніцтва ці акруговага зямельнага аддзелу толькі на тых пасеках, дзе ёсьць ня менш 25 сямей пчол.

15. Калі на адведзеным пад пасеку вучастку растуць асобныя дрэвы, якія перашкаджаюць зьніманьню раёў, то ў такім выпадку лясьнічы можа дазволіць пчаляру высечы іх пры умове аплаты пчаляром вартасьці азначаных дрэў.

16. Гандаль лесам, альбо лесатэхнічнымі матар'яламі і прадуктамі на пасецы ні пад якім повадам не дазваляецца. Таксама забараняецца стварэньне на пасецы гандлёвых ці прамысловых установ, на якія па закону патрабуюцца гандлёвыя ці прамысловыя пасьведчаньні. Забараняецца псаваць растучыя на пасецы і ў лесе дрэвы надрубамі, зьдзіраньнем кары і інш., пасьвіць скаціну па-за межамі пасекі, пракладаць новыя дарогі і інш.

*Увага.* Па вымаганьні ляснoй адміністрацыі ўласьнік пасекі павінен даказаць законнасьць набыцьця ляснога матар'ялу, які знаходзіцца на пасецы.

17. Пры раскладцы на пасецы агню ўласьнік пасекі павінен пільнавацца ўсіх неабходных перасьцярог і калі па яго віне ў лесе здарыцца пажар, то ўласьнік пасекі нясе адказнасьць за ўсе страты ад пажару.

18. Лясная адміністрацыя і варта, ахоўваючы лес, ня мае права ўмешвацца ў гаспадарчыя распараджэньні ўласьніка пасекі, а толькі павінна наглядаць за выкананьнем уласьнікам пасекі ўзятых на сябе абавязкаў.

19. Вучастак, адведзены пад пасеку, можа быць адабраны ад уласьніка пасекі раней дагаворнага тэрміну ў наступных выпадках:

1) калі гэты вучастак будзе падлягаць адчужэньню для дзяржаўных мэт;

2) калі ў працягу году з дня заключэньня дагавору ўласьнікам пасекі на вучастку ня будзе закладзена пасека;

3) калі ўласьнік пасекі будзе замечаны ў парушэньні Ляснога Кодэксу, альбо ў крадзяжы лесу, устаноўленых пратаколам лясной варты і судзебным рашэньнем, і

4) калі ўласьнік пасекі спыніць вядзеньне пасекі.

20. Пры адабраньні ад пчаляра адведзенага яму вучастку раней дагаворнага тэрміну ў выпадку, прадугледжаным п. 1 папярэдняга параграфу, уласьнік пасекі павінен быць папярэджан аб гэтым за паўгода, пры чым яму адводзіцца другі падыходзячы для пасекі вучастак у другім месцы. Ва ўсіх выпадках уласьнік пасекі можа быць выселен з вучастку толькі па скончэньні пчалярскага сэзону. Уласьніку пасекі не забараняецца і самому адмовіцца ад карыстаньня пасечным вучасткам да скончэньня дагаворнага тэрміну.

21. Пры здачы пасечнага вучастку назад лясьніцтву ці акруговаму зямельнаму аддзелу ўласьнік пасекі павінен зьняць усе будынкі і агароджу ў вызначаны лясьнічым ці Акруговым Зямельным Аддзелам тэрмін, але ня больш як за паўгода па скончэньні моцы дагавору аб карыстаньні вучасткам, у супраціўным выпадку ўсе будынкі і інш. застаюцца ў карысьць скарбу. Ямы ад скляпоў, а таксама праведзеныя на пасечным вучастку канавы, павінны быць зароўнены ўласьнікам да здачы вучастку.

## II. БОРЦЕВАЕ ПЧАЛЯРСТВА.

22. Грамадзянам, якія займаюцца борцевым пчалярствам у дзяржаўных лясох да выданьня гэтай інструкцыі, могуць і надалей карыстацца існуючымі борцевымі дрэвамі, на падставе гэтай інструкцыі, з абавязковым зарэгістраваньнем у належных лясьніцтвах з атрыманьнем білету як борцевых дрэў, так і пастаўленых на іх вульляў.

23. Новыя адводы месц для борцевага пчалярства ў тых дачах, у якіх яно да выданьня гэтае інструкцыі не практыкавалася, ня могуць быць дазволены.

24. Борцевыя дрэвы, на якіх стаяць вульлі, кляймуюцца і нумаруюцца.

25. За карыстаньне борцевымі дрэвамі плата не бярэцца.

26. Атрыманы на права карыстаньня борцевымі дрэвамі білет уласьнік вульляў можа перадаць другой асобе з сваім надпісам на білеце, з паведамленьнем аб гэтым лясьнічага, які сьведчыць перадачны надпіс.

27. Данае пчаляру права карыстаньня борцевымі дрэвамі можа быць спынена да скончэньня тэрміну, на які атрыманы білет, у наступных выпадках:

1) калі гэты лясны вучастак будзе належаць адчужэньню з ляснога ведамства;

2) калі ўзрастаючы на вучастку лес паступіць на зруб;

3) калі пчаляр будзе замечаны ў самаўпраўным карыстаньні лесам.

У выпадках, якія паказаны ў першых двух пунктах, пчаляром адводзяцца новыя месцы, а аб адчужэньні лесу пчаляры наведамляюцца загадзя, з такім разьлікам, каб яны мелі магчымасьць скарыстаць выгадны час для пераводу пчол.

28. Гэтая інструкцыя абвяшчаецца пчаляром пры атрыманьні імі білету, у чым яны даюць расьпіску.

Нач. Кіраўніцтва Сельскае Гаспадаркі
і Вэтэрынарыі НКЗ БССР **Ц. Каровікаў.**

За Нач. Ляснога Кіраўніцтва НКЗ БССР **А. Шантаровіч.**

Інспэктар Пчалярства Кіраўніцтва Сельскае
Гаспадаркі і Вэтэрынарыі НКЗ БССР **Я. Струкоўскі.**

Ст. Інспэктар па Эксплёатацыі Лясоў Ляснога
Кіраўніцтва НКЗ БССР **Я. Сядашаў.**

---

## 4. Правілы па вядзеньню пчалярства ў БССР.

§ 1. Правам займацца пчалярствам і заводзіць пасекі карыстаюцца ўсе грамадзяне БССР без асобнага на гэта дазволу і без абмежаваньня ліку сямей пчол і пасек.

§ 2. Мець і ставіць сем'і пчол і пасекі мажліва ў гарадох, мястэчках, сёлах і людных пунктах на сядзібнай, палявой і лугавой землях, якія знаходзяцца як у сталым, так і ў часовым карыстаньні пчаляра.

§ 3. Вульлі з пчоламі павінны знаходзіцца ад межаў суседніх уладаньняў ня менш як на адлегласьці $6^1/_2$ мэтраў, а ад праежджых дарог—ня менш $10^1/_2$ мэтраў. Пры меншай адлегласьці пасека павінна быць адгароджана ад суседняга ўладаньня альбо праежджай дарогі частаколам, парканам, пасадкаю дрэў, альбо будынкам вышынёю ня менш як 2 мэтры.

§ 4. Рой належыць уласьніку пасекі, з якой ён вышаў. Калі рой асеў у чужым уладаньні, сядзібе, садзе і г. д., то ў такім выпадку ўласьнік пасекі, з якой рой вышаў, мае права зьняць рой пад асабістым уласьніка месца, дзе рой прышчапіўся, а пры яго адсутнасьці—членаў яго сям'і, альбо сьведак нагляданьнем. За калечаньне пры зьніманьні рою кустоў, садовых дрэў, пасеваў і г. д. уласьнік рою нясе адказнасьць ў разьмеры прычынёнай шкоды.

Калі ўласьнік вучастку, на якім прышчапіўся рой, не дапусьціць уласьніка рою зьняць яго, то ў такім выпадку ўласьніку рою аб звароце рою і спагнаньні страт належыць зьвярнуцца ў суд.

Уласьнік месца, зьняўшы заляцеўшы да яго чужы рой, павінен аддаць гэты рой яго ўласьніку, калі ім будуць прад'яўлены бясспрэчныя довады аб тым, што гэты рой вышаў з яго пасекі. Пры гэтым за працу па здыманьню рою ўласьнік месца мае права на ўзнагароду па згодзе.

Рознага роду ўзьнікаючыя спрэчкі аб раёх, пры недасягненьні ўзаемнай згоды, падлягаюць вырашэньню ў судовым парадку.

§ 5. Бесгаспадарчыя сем'і пчол—бесгаспадарчыя раі—належаць тэй асобе, у карыстаньні якой знаходзіцца вучастак зямлі, дзе рой прышчапіўся; калі зямля знаходзіцца ў грамадзянскім карыстаньні (пляц, вуліца, дарога), то асобе, якая знайшла рой.

§ 6. Забараняецца ставіць прылады для лоўлі раёў на адлегласьці бліжэй як 2 кілёмэтры наляту ад чужой пасекі.

§ 7. Для таго, каб спыніць драпежныя спосабы пчалярства, уласьнікам пасек забараняецца закурваньне і вымаражваньне дабрабытных сямей пчол у мэтах забраньня ў іх мёду.

*Увага.* Недабрабытнасьць сям'і пчол, якая павінна быць зьнішчана, павінна быць пасьведчана акруговым інструктарам па пчалярству, ці прадстаўніком мясцовага пчалярскага каапэрацыйнага аб'яднаньня, альбо раённым аграномам.

§ 8. Калі на пасецы зьявіцца заразьлівая хвароба пчол—гнілец, альбо назема—то ў такім выпадку ўласьнік пасекі павінен неадкладна прыняць меры барацьбы з хваробаю і аб заражэньні пасекі паведаміць праз сельскі савет суседніх пчаляроў на адлегласьці 5 кілёмэтраў ад заражанай пасекі, інструктара па пчалярству, раённага агранома і мясцовае пчалярскае аб'яднаньне.

§ 9. Агульная падкормка пчол на заражанай гнільцом альбо наземаю пасецы забараняецца. Перадача і продаж пчол, а таксама вульляў і пчалярскіх прылад з заражаных гнільцом альбо наземаю пасек забараняецца.

§ 10. Уласьнік заражанай гнільцом альбо наземаю пасекі, калі прынятыя ім спосабы барацьбы з гэтымі хваробамі не дасягнуць мэты, павінен выканаць усе тэхнічныя паказаньні інструктара па пчалярству, альбо прадстаўніка мясцовага пчалярскага аб'яднаньня аб тым, як ізаляваць і лячыць хворыя сем'і пчол.

Хворыя сем'і пчол у тых стадыях і ўмовах, у якіх ізаляцыя і лячэньне іх пчаляром ня можа быць выканана, падлягаюць зьнішчэньню (увага да § 7).

§ 11. Аздараўленьне пасекі пасьля гнільцу, альбо наземы павінна быць пасьведчана інструктарам па пчалярству, ці прадстаўніком мясцовага пчалярскага аб'яднаньня, альбо раённым аграномам.

§ 12. У мэтах, каб гэтыя заразьлівыя хваробы пчол не распаўсюджваліся, забараняецца продаж мёду ў адчыненай пасудзе—на рынках, торговых пляцох і іншых месцах, дзе мёд можа прывабіць пчол суседніх пасек.

§ 13. Вінаватыя ў парушэньні §§ 3, 6, 7, 8, 9, 10 і 12 гэтых правіл прыцягваюцца да адміністрацыйнай адказнасьці ў парадку, прадугледжаным палажэньнем аб парадку выданьня выканаўчымі камітэтамі абавязковых пастаноў і налажэньня пакараньняў за іх парушэньне ў адміністрацыйным парадку.

Нам. Народнага Камісара
Земляробства БССР **Я. Валодзька.**

Народны Камісар Унутраных Спраў БССР **А. Сташэўскі.**

15/19 красавіка 1927 г.

---

## 5. Абежнік Народнага Камісарыяту Земляробства БССР

### аб абрэвізаваньні раённых зямельных камісій.

*Акруговым Зямельным Камісіям БССР.*

У мінулым 1926 каляндарным годзе акруговымі зямельнымі камісіямі абрэвізавана 71 раённая зямельная камісія з агульнага ліку 100, пры чым:

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| Аршанская | Акрземкам. абрэвізавала | з | 10 | райземкам. | 7, | г.-е. 70% |
| Бабруйская | „ „ | „ | 12 | „ | 3 | „ 25 „ |
| Барысаўская | „ „ | „ | 9 | „ | 9 | „ 100 „ |
| Віцебская | „ „ | „ | 12 | „ | 6 | „ 50 „ |
| Калінінская | „ „ | „ | 10 | „ | 9 | „ 90 „ |
| Магілёўская | „ „ | „ | 10 | „ | 7 | „ 70 „ |
| Мазырская | „ „ | „ | 10 | „ | 9 | „ 90 „ |
| Менская | „ „ | „ | 11 | „ | 11 | „ 100 „ |
| Полацкая | „ „ | „ | 9 | „ | 6 | „ 67 „ |
| Слуцкая | „ „ | „ | 7 | „ | 4 | „ 57 „ |

Пры рэвізіі складаліся падрабязныя акты, якія разглядаліся потым у распарадчым пасяджэньні акруговае зямельнае камісіі. Апошняя ў выніку разгляду гэтых актаў давала належныя распараджэньні аб зьнішчэньні высьветленых недахопаў у працы абрэвізаваных раённых зямельных камісій і недапушчэньні іх неабрэвізаванымі камісіямі.

Копіі рэвізійных актаў і сваіх распараджэньняў акруговыя зямельныя камісіі прадставілі ў Асобую Калегію Вышэйшага Кантролю. З усяго прадстаўленага матар'ялу відаць, што зробленыя акруговымі зямельнымі камісіямі распараджэньні, наогул, зьяўляюцца правільнымі і што ў рабоце зямельных камісій ёсьць вельмі многа памылак і недахопаў: дапушчаюцца цяганіна ў руху спраў, парушэньне Зямельнага Кодэксу, працэсуальнай інструкцыі і інструкцыі аб спагнаньні судовых збораў, а таксама правіл канцэлярскага справаводзтва.

Усё гэта сьведчыць, што справа раённых зямельных камісій патрабуе сувязі паміж імі і акруговымі зямельнымі камісіямі і сталага кіраўніцтва з боку апошніх шляхам інструктаваньня і рэвізій.

Для палепшаньня працы зямельнага суду Народны Камісарыят Земляробства прапануе акруговым зямельным камісіям абавязкова абрэвізаваць у гэтым годзе ўсе тыя раённыя зямельныя камісіі, якія ня былі абрэвізаваны ў мінулым годзе, і праверыць, ці зьнішчаны недахопы працы абрэвізаваных зямельных камісій. Копіі рэвізійных актаў і сваіх распараджэньняў прадставіць у Асобую Калегію Вышэйшага Кантролю.

Нам. Народнага Камісара Земляробства БССР **Я. Валодзька.**

Старшыня Асобай Калегіі Вышэйшага
Кантролю пры НКЗ БССР **Я. Лабаноўскі.**

13 красавіка 1927 г.
№ 21.

---

## 6. Абежнік Народнага Камісарыяту Земляробства і Народнага Камісарыяту Ўнутраных Спраў БССР

### АБ ФОРМЕ ДАЗВОЛАЎ НА ПРАВА ПАБУДАВАНЬНЯ БУДЫНКАЎ, ВЫДАВАЕМЫХ СЕЛЬСКІМІ І МЕСТАЧКОВЫМІ САВЕТАМІ.

*Акруговым і раённым выканаўчым камітэтам, сельскім і мястачковым саветам.*

У мэтах аднастайнасьці парадку дазволаў, якія на падставе п. п. 76—79 „Правіл расплянаваньня і забудоўкі сяленьняў у Беларускай ССР“ (Збор Законаў і Загадаў БССР за 1926 г., № 34) *) на права пабудоўкі ў сельскіх мясцовасьцях, павінны выдавацца сельскімі і местачковымі саветамі па далучанай да гэтага для кіраваньня форме № 1.

Маючы на ўвазе, што толькі няўхільнае правядзеньне ў жыцьцё будаўнічых правіл можа паступова ўпарадкаваць нашае сельскае будаўніцтва, якое ідзе да гэтага часу бяз усякага кіраваньня, Народны Камісарыят Земляробства і Народны Камісарыят Унутраных Спраў прапануюць усім раённым выканаўчым камітэтам і сельскім і местачковым саветам шырока папулярызаваць выдадзеныя СНК БССР, паказаныя вышэй, правілы расплянаваньня і забудоўкі і ўвадзімую ў інтарэсах самога-ж насяленьня абавязковасьць папярэдняга патрабаваньня ўсімі грамадзянамі, якія будуюць новыя будынкі, альбо капітальна рамантуюць старыя, адпаведнага дазволу ў сельскіх і местачковых саветах на права будаўнічых работ.

Для зьнішчэньня непатрэбнага фармалізму ў гэтай справе і ў інтарэсах насяленьня сельскія і местачковыя саветы павінны спросьціць усю справу выдачы дазволаў на пабудоўкі і ў гэтых мэтах трэба на выдачу іх упаўнаважыць асобных членаў сельскага ці местачковага савету, пражываючых у тэй ці іншай вёсцы, а таксама і ўпаўнаважаных паселішч.

---

*) Надрукаваны таксама і ў Бюлетэні СНК БССР № 10 (19) 1926 г., стар. 16.

Нагляд за агульным правядзеньнем у жыцьцё вышэйпамянёнай пастановы СНК аб распланаваньні і забудоўцы сяленьняў у сельскіх ці местачковых саветах можа быць ускладзены на старшынь пажарнай аховы вёсак, а ў раёнах—апроч таго і на раённых агэнтаў дзяржаўнага страхаваньня.

Для дачы-ж грамадзянамі (паводле п. 77 Правіл) неабходных сельскаму ці местачковаму савету зьвестак аб пабудоўцы, можа быць рэкамандавана далучаная да гэтага форма (форма № 2) заявы, падаваемай ў пісьмовай форме; гэтыя зьвесткі могуць давацца грамадзянамі і вусна.

Неабходны лік кніжак для выдачы дазволаў, запаўняемых пад капірку, будзе Народным Камісарыятам Земляробства разасланы для забесьпячэньня ўсіх сельскіх і местачковых саветаў.

Выдаваемыя дазволы павінны ў далейшым паслужыць органам Цэнтральнае Статыстычнае Управы для падліку ўсяго сельскага будаўніцтва.

Нам. Народнага Камісара
Земляробства БССР **Я. Валодзька.**

Народны Камісар Унутраных
Спраў БССР **А. Сташэўскі.**

Нач. Кіраўніцтва Земляўпарадкаваньня,
Мэліарацыі і Дзяржаўных Зямельных
Маемасьцяй НКЗ БССР **А. Шычко.**

27 красавіка 1927 г.
№ 22.

---

ДАДАТАК 1.

ФОРМА № 1.

| МЕСЦА для ШТАМПУ | Пасьведчаньне |
|---|---|

## Пасьведчаньне

На падставе § 78 „Правіл распланаваньня і забудоўкі сяленьняў“, выдадзеных СНК БССР 21/VII—1926 г., апублікаваных у Зборы Законаў і Загадаў БССР 1926 г. № 34—гр-ну (прозьвішча, імя і імя па бацьку)________________

дазваляецца ў (назва паселішча)____________ сельскага (або местачковага) савету ____________ раёну____________ акругі пабудаваць (ці зрабіць капітальны рамонт)____________

разьмерам у даўжыню __________ мэтр.
шырыню .......... мэтр. і вышыню .......... мэтр.
.......... з __________ ..........
сьценамі на .......... фундамэнце з ..........
.......... страхой на яго сядзібе на адлегласьці ад існуючага бліжэйшага яго будынку (хаты, ці хлява і г. д.) __________ мэтр.
і ад мяжы гр-на __________
.......... мэтр.

Вышэйпамянёны будынак павінен быць разьмешчаны .......... (па франтавой лініі альбо ў адлегласьці ад яе) у .......... мэтр.

Подпісы:

Старшыня сельскага (або местачковага) Савету

Сэкратар

---

ДАДАТАК 2.

ФОРМА № 2.

*У .......... сельскі (або местачковы) савет .......... раёну*

Грамадзяніна (назва паселішча, імя, імя па бацьку і прозьвішча).

# ЗАЯВА

Прашу дазволіць мне пабудаваць (зрабіць капітальны рамонт у __________ (назва паселішча) __________ (дом, сарай для жывёлы ці інш., паказаўшы прызначэньне будынку) з .......... сьценамі на .......... фундамэнце з .......... страхой, на маей сядзібе ў адлегласьці ад бліжэйшых існуючых будынкаў __________
__________ (указаць якіх) на .......... мэтраў і ад мяжы сумежных сядзіб справа гр-на __________ на __________ мэтр. і зьлева гр-на .......... на

............................................мэтр.

(Подпіс)............................................

............................................

(дзень, месяц і год).

---

Спраўка аб выкананьні.

На гэтай заяве выдан дазвол за №............................ / адмоўлена ў дазволе з прычыны............................

............................................................................................

Сэкратар сельскага (або местачковага) савету ____________ (подпіс). ____________

---

## 7. Інструкцыя Народнага Камісарыяту Працы БССР

АБ УЖЫВАНЬНІ ПАСТАНОВЫ СНК БССР ЗА 14 ЛІПЕНЯ 1926 г. „АБ ДЗЯРЖАЎНЫМ НАРМАВАНЬНІ ЗАРАБОТНАЕ ПЛАТЫ СЛУЖАЧЫХ, ЯКІЯ ЗНАХОДЗЯЦЦА НА ДЗЯРЖАЎНЫМ БЮДЖЭЦЕ".

Народны Камісарыят Працы БССР на падставе арт. 8 пастановы СНК БССР за 14 ліпеня 1926 г. „Аб дзяржаўным нармаваньні з. работнае платы служачых, знаходзячыхся на дзяржаўным бюджэце" (Збор Зак. БССР 1926 г. № 33, арт. 126) прапануе ўсім установам, якія знаходзяцца на дзяржаўным бюджэце, пры выдаткаваньні імі сум на ўтрыманьне асабовага складу, броні падлеткаў і на дадатковыя віды аплаты працы кіравацца наступным:

1. Крэдыты, адпушчаныя па фонду заработнае платы дзяржаўнага бюджэту:

а) на аплату сталых акладаў для пасад; б) на аплату спэцыяльных дабавак; в) на аплату кампэнсацый за нескарыстаньне водпуску; г) на аплату выхадной дапамогі; е) на аплату звышмерных работ; ж) на аплату часовых служачых і з) на аплату вучнёўства,—павінны выдавацца выключна па іх прызначэньню. Карыстацца крэдытамі па паасобных відах заработнае платы на павялічэньне каштарысных асыгнаваньняў не дазваляецца.

2. Заработную плату служачым дзяржаўных устаноў трэба выплачваць у дасканальнай адпаведнасьці з зацьверджанымі СНК БССР штатамі і акладамі.

3. Установленыя ў парадку дзяржаўнага нармаваньня спэцыяльныя надбаўкі звыш акладаў па пасадзе выдаюцца толькі асобам, якім яны прызначаны. Перавод даннай асобы на іншую пасаду альбо прыём на гэту пасаду іншай асобы пазбаўляе гэтых працаўнікоў права на атрыманьне спэцыяльнай надбаўкі.

4. Выплата кампэнсацый за нескарыстаны водпуск дазваляецца ў парадку арт. 91 Код. Зак. аб Працы, але ня больш як за 2 тыдні, калі іншае не абумоўлена ў асабістых альбо калектыўных дагаворах.

5. Аплата заступаючых дазваляецца выключна ў тых выпадках, калі ў абавязкі часова заступаючай асобы заступаць адсутнага не ўваходзіць.

Ва ўсякім выпадку крэдыт на паказаную патрэбу ня можа выдаткоўвацца на дадатковую ўзнагароду працаўнікоў, якія займаюць штатныя пасады намесьнікаў, альбо памоцнікаў, у выпадках часовай адсутнасьці асобы, абавязкі якой яны выконваюць. Пры выдаткаваньні гэтага крэдыту дазваляецца выключна аплата розьніцы паміж устаноўленымі акладамі па пасадах пры ўмове, калі заступаць прыходзілася ня менш як 2 тыдні і гэта было своечасна аформлена загадам па ўстанове.

6. Выдаткі на аплату выхадной дапамогі дазваляюцца пры ўмовах і ў разьмерах, прадугледжаных Код. Зак. аб Працы.

7. Пры звышмернай рабоце неабходна захаваньне ўсіх патрабаваньняў існуючых законапалажэньняў; зьвесткі аб выкананьні паказаных патрабаваньняў прыкладаюцца да апраўдальных дакумэнтаў аб скарыстаньні крэдыту.

8. Расходы на наём часовых служачых звыш штату дазваляюцца, калі ёсьць дазваленьне на гэта штатнай камісіі пры Н. К. Рабоча-Сялянскай Інспэкцыі.

*Увага.* Пры замене звольненых у водпуск, наём часовых працаўнікоў павінен рабіцца непасрэдна ўстановаю пры існаваньні каштарысных асыгнаваньняў на гэту мэту, пры гэтым аплата часовых служачых робіцца ў разьмерах, не перавышаючых устаноўленых акладаў для пасад, на якія запрашаюцца часовыя працаўнікі.

9. Крэдыты, адпушчаныя на ўтрыманьне броні падлеткаў, павінны скарыстоўвацца толькі на гэту мэту, пры гэтым у выпадку пераводу бронь-падлеткаў у штат, астатак прадугледжаных на гэту мэту крэдытаў павінен быць скарыстаны на аплату нова-прынятых вучняў.

*Увага.* Аплата вучняў робіцца ў наступных разьмерах: у першым вучэбным годзе—1-ыя паўгода—па 15 руб. у месяц, 2-гія паўгоды—па 20 руб.; у другім вучэбным годзе: 1-ыя паўгода—па 25 руб., 2-гія паўгода—па 30 руб. Падвышэньне заработнае платы робіцца па пастановах экспэртных камісій у залежнасьці ад посьпехаў вучня.

10. Усе нескарыстаныя астаткі крэдытаў па фонду заработнае платы павінны быць пакінуты ў касах Н. К. Грашовых Спраў на рахунак адпаведных распарадчыкаў крэдытаў.

11. У тых выпадках, калі абавязкі таго альбо іншага працаўніка павялічыліся і трэба запрасіць для гэтай працы больш кваліфікаванага працаўніка, а таксама калі штаты якой-небудзь установы зьменены штатнай Камісіяй пры Н. К. Рабоча-Сялянскай Інспэкцыі ў працэсе выкарыстаньня бюджэту гэтага году,—адпаведнае ведамства паднімае перад Н. К. Працы хадайніцтва аб падвышэньні акладу для пасады альбо аб прызначэньні іх для новых штатных адзінак, у межах акладаў, зацьверджаных СНК БССР для тых-жа пасад.

*Увага.* Хадайніцтвы аб павялічэньні акладаў для пасад могуць паднімацца перад Н. К. Працы толькі ўстановамі, якія маюць правы галоўных распарадчыкаў крэдытаў і адпаведнымі Ц. П. Прафэсіянальных Саюзаў. Гэтыя хадайніцтвы ўзбуджаюцца толькі пры ўмове, калі адпаведнае ведамства мае невыкарыстаныя крэдыты па фонду заработнае платы і накіроўваюцца ў Н. К. Працы і ў копіях—у Н. К. Грашовых Спраў.

12. Парадак узбуджэньня хадайніцтва аб зьмене зацьверджаных спэцыяльных надбавак таксама як і аб прызначэньні новых устанаўляецца той самы, які вызначан для замены акладаў для пасад, пры гэтым асобнае ведамства можа паднімаць хадайніцтва аб зьмене спэцыяльных надбавак і аб прызначэньні новых у межах асыгнаванага на гэту мэту фонду.

У гэтых хадайніцтвах павінны быць пэрсанальна пералічаны асобы, на якіх гэтыя хадайніцтвы паднімаюцца.

13. Усе зьмены як адносна акладаў, так і адносна штатаў ні ў якім разе ня могуць ажыцьцяўляцца ведамствамі да атрыманьня афіцыйнага дазволу ў першым выпадку Н. К. Працы, а ў другім выпадку—штатнай Камісіі пры Н. К. Рабоча-Сялянскай Інспэкцыі.

14. У калектыўныя і працоўныя дагаворы, якія робяцца установамі, павінны ўпісвацца аклады для пасад, зацьверджаныя для гэтай установы па каштарысу.

Нам. Народнага Камісара Працы БССР **Р. Алесін.**

Заг. Тар.-Канфл. Аддзелу НКП БССР **С. Гольдберг.**

Заг. Агульнага Аддзелу НКП БССР **І. Акулаў.**

Узгоднена:

з Н. К. Грашовых Спраў БССР—
Нам. Народнага Камісара Грашовых Спраў БССР **В. Мікуліч.**

з Н. К. Рабоча-Сялянскай Інспэкцыі БССР—
Нам. Народнага Камісара Рабоча-Сялянскай Інспэкцыі БССР **К. Бенек.**

з Цэнтральным Саветам Прафэсіянальных Саюзаў Беларусі—
Нам. Заг. Тарыфна-Эканамічнага Аддзелу ЦСПСБ **З. Каган.**

1 красавіка 1927 г.
№ 55.

---

## 8. Тлумачэньне Народнага Камісарыяту Працы БССР

АБ ПАШЫРЭНЬНІ АРТ. 80 КОД. ЗАКОНАЎ АБ ПРАЦЫ НА ДАБРАВОЛЬЦАЎ.

У сувязі з атрыманымі запытаньнямі аб правох асоб, якія дабравольна паступаюць у Рабоча-Сялянскую Чырвоную Армію і Рабоча-Сялянскі Чырвоны Флёт, на атрыманьне наперад двухтыднёвага заработку па месцы работы, Народны Камісарыят Працы БССР растлумачвае:

Асобы, якія ідуць дабравольцамі ў Рабоча-Сялянскую Чырвоную Армію і Рабоча-Сялянскі Чырвоны Флёт, карыстаюцца правам, устаноўленым арт. 80 Код. Законаў аб Працы, нараўне з асобамі, якія паступаюць у Чырвоную Армію і Чырвоны Флёт па прызыву.

Пасьля залічэньня дабравольца ў Рабоча-Сялянскую Чырвоную Армію ці Рабоча-Сялянскі Чырвоны Флёт яму па месцы работы павінен быць выплачаны яго сярэдні заработак за два тыдні наперад.

Народны Камісар Працы БССР **К. Бенек**.

Загадчык Агульнага Аддзелу НКП БССР **І. Акулаў.**

21 красавіка 1927 г.
№ 58.

---

## 9. Пастанова Народнага Камісарыяту Працы БССР

### АБ ПАРАДКУ АДНАЎЛЕНЬНЯ РАБОТ НА КАНСЭРВАВАНЫХ ПРАДПРЫЕМСТВАХ

З прычыны спрэчак, якія паўстаюць паміж гаспадарчымі органамі і Інспэкцыяй Працы па пытаньні аб папярэднім дазволе на аднаўленьне работ на кансэрваваных прадпрыемствах, у разьвіцьцё абежніку Народнага Камісарыяту Працы СССР за 14/IX—1926 г. за № 197/379 „Аб аднаўленьні работ на кансэрваваных прадпрыемствах“ („Известия НКТ СССР“ за 1926 г., № 35) Народны Камісарыят Працы БССР пастанаўляе:

1. Кансэрваваныя прадпрыемствы, якія не атрымалі ад органаў Н. К. Працы дазволу на правядзеньне работ (хоць-бы яны і атрымалі адпаведныя дазволы ў дарэвалюцыйны час, альбо пры савецкай уладзе, але не ад органаў Н. К. Працы) могуць быць у будучы час пушчаны ў ход толькі па атрыманьні папярэдняга дазволу на гэта органаў Н. К. Працы БССР ў парадку папярэдняга нагляду.

2. Заводы і фабрыкі, якія пушчаны ў ход пасьля кансэрвацыі, але ня маюць папярэдняга дазволу на гэта органаў Н. К. Працы, падлягаюць зараз-жа агляду Інспэкцыі Працы для зьнішчэньня недахопаў у галіне аховы працы.

3. Кансэрваваныя прадпрыемствы, якія атрымалі раней ад органаў Н. К. Працы дазволы на правядзеньне работ, могуць быць пушчаны ў ход бяз новага дазволу на гэта.

4. Інспэкцыя Працы на кансэрваваных прадпрыемствах, якія ўжо пушчаны ў ход (арт. 2), робяць агляды іх для выяўленьня зьмен у стане прадпрыемства, пагоршваючых умовы працы, якія атрымаліся за час кансэрвацыі. Пры выяўленьні гэтых зьмен Інспэкцыя Працы робіць загады аб устанаўленьні ўмоў працы, адпаведных працоўнаму законадаўству.

5. Аб кансэрваваных прадпрыемствах, на якіх мяркуецца аднавіць работу, гаспадарчыя органы і прыватныя асобы павінны паведамляць Камэры Інспэкцыі (Аддзелы) Працы не пазьней як за два тыдні да мяркуемага аднаўленьня работ на прадпрыемстве.

Народны Камісар Працы БССР **К. Бенек.**

Заг. Аддзелу Аховы Працы НКП БССР **Н. Калінін.**

Заг. Агульнага Аддзелу НКП БССР **І. Акулаў**.

21 красавіка 1927 г.
№ 59.

---

## 10. Выпіс з пратаколу пасяджэньня Эканамічнае Нарады пры СНК БССР за 25 красавіка 1927 г. № 11-а

АБ ЗЬМЕНЕ ІНСТРУКЦЫІ НАРОДНАГА КАМІСАРЫЯТУ ЎНУТРАНЫХ СПРАЎ БССР ЗА 31 СТУДЗЕНЯ 1927 г. АБ УЖЫВАНЬНІ ПАСТАНОВЫ ЦВК І СНК БССР ЗА 23 КАСТРЫЧНІКА 1926 г. АБ АПЛАЦЕ ЖЫЛЫХ ПАМЯШКАНЬНЯЎ У ГАРАДОХ БССР *).

У мэтах удасканаленьня п. 17 інструкцыі, а таксама і нармаваньня платы ў адносінах саматужнікаў, ня маючых наёмных рабочых і атрымліваючых чыстага прыбытку звыш 700 р., Эканамічная Нарада пры СНК БССР пастанаўляе:

а) п. 17 інструкцыі Народнага Камісарыяту Ўнутраных Спраў БССР за 31 студзеня 1927 г. скласьці ў наступнай рэдакцыі:

„Саматужнікі і рамесьнікі, маючыя толькі аднаго рабочага і атрымліваючыя чыстага прыбытку ня звыш 700 р. на год, аплачваюць памяшканьні па 1 р. 25 к. за 1 кв. саж.“;

б) дапоўніць памянёную інструкцыю п. 17-а наступнага зьместу:

„Саматужнікі і рамесьнікі, ня маючыя наёмных рабочых і атрымліваючыя чыстага прыбытку звыш 700 р. на год, аплачваюць памяшканьні ў межах ставак, устаноўленых для саматужнікаў і рамесьнікаў, маючых аднаго рабочага і атрымліваючых чыстага прыбытку звыш 700 р. (арт. 9 пастановы ЦВК і СНК БССР за 23 кастрычніка 1926 г.)“

Арыгінал за належнымі подпісамі.

З аргіналам згодна:

За Сэкратара Эканамічнае Нарады пры СНК БССР **А. Бародзіч.**

---

## 11. Пастанова Народнага Камісарыяту Гандлю БССР

АБ УСТАНАЎЛЕНЬНІ ГРАНІЧНЫХ НОРМ ЗОЛЬНАСЬЦІ ПРЫ ПЕРАМОЛЕ ПШАНІЦЫ Ў МУКУ Ў МЛЫННАЙ ПРАМЫСЛОВАСЬЦІ.

Паводле п. п. „в“ і „м“ арт. 4 Часовага Палажэньня аб Народным Камісарыяце Гандлю БССР, загаду Народнага Камісарыяту Гандлю СССР за 30-га сакавіка 1927 г. за № 6460/261, у дапаўненьне да пастановы Народнага Камісарыяту Гандлю БССР за 5 сакавіка 1927 г. № 11 „аб увядзеньні стандартаў на таварную пшанічную і жытнюю муку“ (апублікаванай у „Беларускім Камэрцыйным Бюлетэні“ за 8/III г. г. № 19 (226) Народны Камісарыят Гандлю БССР пастанаўляе:

1. Устанавіць для млыннай прамысловасьці БССР наступныя гранічныя нормы зольнасьці пры перамоле пшаніцы ў муку, устаноўленых п. 2 пастановы Народнага Камісарыяту Гандлю за 5/III г. г. № 11 стандартаў:

| СОРТ | ВЫХАД | % ЗОЛЬНАСЬЦІ |
|---|---|---|
| I | 0—60 % | 0,65 |
| II | 60—75 „ | 2,10 |

*) Надрукавана ў Бюлетэні СНК БССР за 1927 г. № 4 (29), стар. 9.

2. Вінаватыя ў паруцшэньні гэтай пастановы падлягаюць адказнасьці, прадугледжанай вышэйпаказанай пастановай № 11.

Нам. Народнага Камісара Гандлю БССР **Л. Брыскін**.

Сэкратар **Н. Строганаў**.

26 красавіка 1927 г.
№ 31.

---

## 12. Пытаньні і адказы.

Запытаньне Барысаўскае акруговае зямельнае камісіі за 31 студзеня 1927 г. № 4025:

ПЫТАНЬНЕ **47.** Акруговая зямельная камісія пры рэвізіі раённай выявіла некалькі ўвайшоўшых у законную сілу пастаноў аб падзеле недрабімых гаспадарак. Ці трэба гэтыя пастановы прадставіць для скасаваньня ў парадку нагляду ў Асобую Калегію Вышэйшага Кантролю пры ўмове, што яны ўжо выкананы?

АДКАЗ. Прадстаўленьне для скасаваньня ў парадку нагляду ўвайшоўшае ў законную сілу пастановы зямельнае камісіі аб падзеле недрабімае гаспадаркі было-б немэтазгодным, бо немагчыма ажыцьцявіць паварот выкананьня гэтае пастановы. Калі апошняя зроблена была раённаю зямельнаю камісіяй пасьля выданьня Народным Камісарыятам Земляробства правіл аб парадку афармленьня сямейных падзелаў за 13 лістапада 1925 г., дык аб прыцягненьні складу раённае зямельнае камісіі да дысцыплінарнай адказнасьці за незахаваньне гэтых правіл акруговая зямельная камісія павінна паведаміць акруговы выканаўчы камітэт. Прыцягненьне да дысцыплінарнай адказнасьці магчыма, калі з часу вынясеньня пастановы аб падзеле недрабімае гаспадаркі яшчэ не прайшло году.

ПЫТАНЬНЕ **48.** Ці можа раённая зямельная камісія не заводзіць справы ў тым выпадку, калі іск прад'яўляецца аб падзеле зямлі і іншае маемасьці непадзельнае сялянскае гаспадаркі?

АДКАЗ. Прыняцьце раённымі зямельнымі камісіямі іскаў аб сямейных падзелах наогул прыпынена пастановай Савету Народных Камісараў за 10 красавіка 1925 г., (Збор Зак. БССР за 1925 г. № 24, арт. 220). Падзел двароў зьяўляецца магчымым толькі ў выключных выпадках, наяўнасьць якіх вызначаецца старшынёй камісіі пры падачы яму іскавой заявы.

Падзел зямлі і недрабімай гаспадаркі наогул не дапушчаецца. Выдзел-жа ў натуры будынкаў, інвэнтару, ураджаю і інш. агульнае маемасьці магчым толькі тады, калі маемасьці гэтай гаспадарка мае лішак і калі выходзячыя са складу непадзельнае гаспадаркі яе члены ўтвараюць самастойную сельскую гаспадарку на атрыманай імі ў надзел ці арэнду зямлі (Бюл. СНК за 1926 г. № 15, стар. 37, пытаньне 142). Для гэтага і пры прад'яўленьні іску аб падзеле недрабімае гаспадаркі трэба заводзіць справу, калі старшынёй раённае зямельнае камісіі пры разглядзе іскавой заявы знойдзена будзе наяўнасьць выключных выпадкаў, якія даюць права на выдзел істцу ў натуры часткі агульнае маемасьці (без зямлі) недрабімае гаспадаркі ў якасьці сплаты (арт. 84 Зям. Код.).

Апроч таго, выходзячыя са складу недрабімае гаспадаркі яе члены ва ўсіх выпадках маюць права на атрыманьне сплат. Разгляд гэтых іскаў зямельнымі камісіямі ня прыпынены. Дзеля гэтага завядзеньне судовых спраў па такіх ісках для зямельнай камісіі зьяўляецца абавязковым.

## Запытаньне Тураўскае раённае зямельнае камісіі за 4 лютага 1927 г. № 574:

ПЫТАНЬНЕ **49**. Ці маюць права члены двара, якія перасяляюцца на калёнізацыйны фонд, аддаць у арэнду сваю долю зямлі з агульнае гаспадаркі пры ўмове, што гаспадарка зьяўляецца недрабімай і на ёй пазастаюцца другія члены двара?

АДКАЗ. Члены двара ня маюць самастойнага права на карыстаньне паасобнымі долямі агульнага зямельнага надзелу двара, а дзеля гэтага яны ня могуць здаваць гэтае долі ў арэнду. Зямля, якая знаходзіцца ў карыстаньні двара, можа быць аддана ў арэнду толькі ўсім дваром у цэлым у асобе яго гаспадара, як прадстаўніка двара. Калі перасяляецца частка членаў недрабімае гаспадаркі, а тыя члены, якія пазастаюцца на месцы, ня згодны на аддачу зямлі ў арэнду, дык яны прадаўжаюць карыстацца ўсёй гаспадаркай. Перасяленцы ў гэтым выпадку маюць права толькі на атрыманьне сплат з недрабімае гаспадаркі на грунце арт. 84 Зям. Код.

## Запытаньне Магілёўскае акруговае зямельнае камісіі за 26 лютага 1927 г. № 2175:

ПЫТАНЬНЕ **50**. Калі выносіцца пастанова аб канчатковым зацьверджаньні выкананага праэкту земляўпарадкаваньня па справе аб разьмеркаваньні лішкаў з карыстаньня быўшае гаспадаркі сярод патрабуючага зямлі насяленьня, дык ці трэба ў гэтай пастанове азначыць як тую зямлю, якая знаходзіцца ў карыстаньні данадзяляемага двара, так і тую, якая атрымана ім у прырэзку?

АДКАЗ. У пастанове акруговае зямельнае камісіі аб канчатковым зацьверджаньні выкананага праэкту земляўпарадкаваньня на грунце арт. 173 Зям. Код. вызначаецца, між іншым, якія землі па іх роду, колькасьці, месцы знаходжаньня і граніцах, каму і на якіх падставах адводзяцца. Дзеля гэтага ў пастанове павінна быць паказана ўся без выключэньня зямля надзяляемае гаспадаркі з разьмеркаваньнем яе на быўшую ў яе карыстаньні раней і атрыманую потым у прырэзку. Наяўнасьць усіх гэтых зьвестак тым больш неабходна, што на грунце іх робіцца дзяржаўны запіс землякарыстаньняў, створаных у парадку земляўпарадкаваньня, і выдача насяленьню дакумэнтаў.

## Запытаньне Азарыцкага раённага выканаўчага камітэту за 4 сакавіка 1927 г. № 1612:

ПЫТАНЬНЕ **51**. Ці могуць зямельныя органы разьмяркоўваць запасныя вучасткі зямельнае грамады, пералічаныя ў арт. 59 Зям. Код., бяз згоды грамады сярод безьзямельных і малазямельных грамадзян, якія не належаць да складу даннае зямельнае грамады?

АДКАЗ. Калі ў распараджэньне зямельных органаў паступае зямля двароў, якія належаць да складу зямельнае грамады, дык яна разьмяркоўваецца імі сярод патрабуючых зямлі членаў тае-ж гра-

мады, бо за ёй зямля гэтая замацавана ў сталае працоўнае карыстаньне артыкулам 124 Зям. Код. Дапрысяленьне новых двароў са стараны магчыма толькі ў тым выпадку, калі ўсе двары, якія складаюць данную зямельную грамаду забясьпечаны максымальнаю нормаю зямлі.

Адказы на пытаньні 47—51 даюцца Асобай Калегіяй Вышэйшага Кантролю пры Н. К. Земляробства БССР (журнал распарадчага пасяджэньня АКВК за 7 красавіка 1927 г. № 26).

## Запытаньне Магілёўскага акругова зямельнага аддзелу за 4 сакавіка 1927 г. № 2360:

ПЫТАНЬНЕ **52**. У Магілёўскім акруговым зямельным аддзеле ёсьць некалькі спраў бышага Горацкага павету аб зямельнай рэгістрацыі. Зроблены гэтай рэгістрацыяй падлік зацьверджан зямельнымі камісіямі. Некаторыя з землякарыстальнікаў маюць лішкі звыш максымальнае нормы. Ці можна гэтыя гаспадаркі лічыць земляўпарадкаванымі пры савецкай уладзе і дзеля таго не падлягаючымі абрэзцы.

АДКАЗ. На грунце арт. арт. 124 і 125 Зям. Код. за паасобнымі працоўнымі гаспадаркамі з дня выдачы ім дакумэнтаў замацавана ў сталае працоўнае карыстаньне ўся тая колькасьць зямлі, якая знаходзіцца ў іх фактычным працоўным карыстаньні. Афармленьне існуючага карыстаньня зямлёю з вызначэньнем яго разьмераў і межаў і выдачай насяленьню належных дакумэнтаў у раёнах, дзе няма заблытанасьці зямельных адносін, можа рабіцца зямельнымі органамі ў парадку дзяржаўнага запісу землякарыстаньня (рэгістрацыі). Такім чынам працоўнае землякарыстаньне, аформленае ў парадку зямельнае рэгістрацыі, зьяўляецца замацаваным і дзеля гэтага не падлягаючым абрэзцы.

## Запытаньні Аршанскага акруговага зямельнага аддзелу за 5 сакавіка 1927 г. № 2595:

ПЫТАНЬНЕ **53**. Ці трэба заносіць у падворныя сьпіскі грамадзян, якія карыстаюцца толькі сядзібай, а таксама безьзямельных, маючых толькі будынкі ў вёсцы?

АДКАЗ. На грунце арт. 4 правіл, выданых 17 верасьня 1926 г. Народным Камісарыятам Земляробства (Бюл. СНК за 1927 г. № 1, стар. 16) ў падворныя сьпіскі заносяцца ўсе без выключэньня двары, якія вядуць сельскую гаспадарку. Сыстэма гэтае гаспадаркі можа быць рознастайнай: зернавой, жывёлаводнай, агароднай, насеннай, садовай, пасечнай і інш. Дзеля гэтага ўсякі двор, які вядзе сельскую гаспадарку, заносіцца ў падворны сьпісак незалежна ад разьмеру і катэгорыі ўжыткаў, якія знаходзяцца ў яго карыстаньні. Дзеля таго, што безьзямельныя грамадзяне па сэнсу арт. 63 Зям. Код. не складаюць працоўных земляробчых гаспадарак, у падворныя спіскі яны не заносяцца.

ПЫТАНЬНЕ **54**. Як заносіць у падворны сьпісак тыя двары, якія падзялілі паводле пастановы народнага суду маемасьць, а зямлёй карыстаюцца сумесна? Ці можна прызнаваць іх паасобнымі гаспадаркамі?

АДКАЗ. Двор, які падзяліў паводле пастановы народнага суду маемасьць і прадаўжае сумесна карыстацца зямлёй, заносіцца ў падворны сьпісак, як адзіная гаспадарка.

Прызнаньне такога двара падзельным, супярэчыла-б пастанове Савету Народных Камісараў за 10 красавіка 1925 г. аб прыпыненьні падзелаў сялянскіх гаспадарак (Збор Зак. БССР 1925 г. № 24, арт. 220). Пастановай гэтай забаронен падзел зямлі ў зямельнай камісіі, але не падзел маемасьці ў народным судзе. Такім чынам падзел маемасьці без зямлі не прызнаецца падзелам гаспадаркі.

ПЫТАНЬНЕ **55**. Як запісваць плошчу землякарыстаньня ў тых вёсках, якія земляўпарадкаваны пры савецкай уладзе, але дакумэнтаў яшчэ не атрымалі. Ці трэба плошчу зямлі, якая знаходзіцца ў карыстаньні паасобных двароў, запісваць са слоў землякарыстальнікаў, ці на падставе зьвестак земляўпарадчай установы?

АДКАЗ. У тых вёсках, якія земляўпарадкаваны пры савецкай уладзе, разьмер земляўпарадкаваньня паасобных двароў адзначаецца ў падворным сьпіску на падставе зьвестак, якія зьмяшчаюцца ў зацьверджаным земляўпарадчым праэкце.

ПЫТАНЬНЕ **56**. Ці ня трэба ў графах 28 і 29 ведамасьці, якая далучана да правіл вядзеньня падворных сьпіскаў, адзначыць назву будынкаў, бо зьмяшчаемыя ў гэтых графах зьвесткі аб ліку іх не дадуць матар'ялу для складаньня каштарысу, які прыходзіцца скласьці ў выпадку пераносу будынкаў пры земляўпарадкаваньні?

АДКАЗ. Назвы будынкаў не адзначаюцца ў падворным сьпіску, як гэта відаць з загалоўкаў 28 і 29 граф.

### Запытаньне Віцебскага акруговага зямельнага аддзелу за 7 сакавіка 1927 г. № 4247:

ПЫТАНЬНЕ **57**. Ці трэба запісваць у падворны сьпісак такія двары, уся сям'я якіх жыве ў горадзе, а зямля знаходзіцца ў межах сельскага савету?

АДКАЗ. Калі члены двара, жывучы ў горадзе, вядуць сельскую гаспадарку за межамі гарадзкой зямлі, дык на падставе арт. арт. 42 і 132 Зям. Код. такі двор уваходзіць у склад зямельнае грамады, якая прадстаўляе сабою злучнасьць двароў. Дзеля гэтага такі двор запісваецца ў падворны сьпісак з адзначэньнем у графе 8 месца яго жыцьця. Знаходзячаяся ў межах гораду сядзіба і будынкі такога двара ў падворным сьпіску не адзначаюцца.

ПЫТАНЬНЕ **58**. Пры запаўненьні графы 7 ведамасьці, далучанай да правіл вядзеньня падворных сьпіскаў, зьвесткамі аб годзе нараджэньня членаў двара сустракаюцца перашкоды па прычыне адсутнасьці ў іх належных дакумэнтаў, немагчымасьці атрыманьня іх скора з органаў Запісу Актаў Грамадзянскага Стану альбо Народнага Суду пры вызначэньні ўзросту з выгляду і па прычыне імкненьня грамадзян прыбаўляць узрост асоб, не дасягнуўшых 16 год, каб лічыць іх за поўную працоўную адзінку. Як рабіць у такіх выпадках?

АДКАЗ. Зьвесткі аб годзе нараджэньня членаў двара заносяцца ў падворны сьпісак (арт. 5 правіл іх вядзеньня) на падставе дакумэнтаў, а пры адсутнасьці іх—на падставе заявы землякарыстальніка, правяраемай потым па матар'ялах сельскага савету і раённага выканаўчага камітэту на агульным сходзе грамадзян у парадку арт. 8 правіл і ў няпэўных выпадках—шляхам вытрабаваньня дакумэнтаў з органаў Запісу Актаў Грамадзянскага Стану і з камісіі, якая вызначае ўзрост з выгляду.

Запытаньні Слуцкага акруговага зямельнага аддзелу (бяз даты):

ПЫТАНЬНЕ **59**. Як запісваць па кожнаму падворнаму сьпіску, заведзенаму на пэўную вёску, цераспалосныя вучасткі, якія знаходзяцца ў карыстаньні двароў другіх зямельных грамад?

АДКАЗ. Цераспалосныя вучасткі, якія знаходзяцца ў карыстаньні двароў другіх зямельных грамад, запісваюцца ў агульнай плошчы на загалоўнай старонцы кожнага паселішчнага пункту.

Пры запаўненьні-ж падворнага сьпісу зьвесткамі аб землякарыстаньні кожнага паасобнага двара адзначаецца ня толькі яго землякарыстаньне ў аднэй грамадзе, але і вучасткі, якімі двор карыстаецца ў межах другіх грамад.

ПЫТАНЬНЕ **60**. Як адзначаюцца ў падворным сьпіску спрэчныя вучасткі?

АДКАЗ. Спрэчныя зямельныя вучасткі трэба запісваць за тым дваром, які карыстаецца імі ў час запаўненьня падворнага сьпіску. Па вырашэньні спрэчкі ў судзе адзначаюцца адбыўшыяся зьмены.

ПЫТАНЬНЕ **61**. За кім трэба запісваць нявыгадныя зямлі, ад якіх адмаўляецца землякарыстальнік.

АДКАЗ. Калі адмова двара ад зямлі не зарэгістравана яшчэ зямельнымі органамі, дык пры складаньні падворнага сьпіску ў ім адзначаецца ўсё поўнасьцю землякарыстаньне двара. Пасьля-ж афармленьня адмовы ад зямлі робіцца адзнака аб адбыўшайся зьмене ў складзе землякарыстаньня.

Адказы на пытаньні 52—61 даюцца Асобай Калегіяй Вышэйшага Кантролю пры Н. К. Земляробства БССР (журнал распарадчага пасяджэньня АКВК за 7 красавіка 1927 г. № 27).

## 13. Аб разьмеркаваньні ў працоўнае карыстаньне зданых у арэнду вучасткаў дзяржаўных зямельных маемасьцяй.

На грунце пастановы IV сэсіі Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту БССР VI скліканьня за 7 лютага 1925 г. аб дапаўніцельным землянадзяленьні безьзямельных і малазямельных сялян, Народным Камісарыятам Земляробства адведзен спэцыяльны зямельны фонд. У склад гэтага фонду залічаны: а) выключаныя з ляснога фонду землі, б) мэліараваныя ўгодзьдзі, в) адбіраемыя ад буйных гаспадарак зямельныя лішкі, г) невыкарыстоўваемыя землі і д) частка дзяржаўных зямельных маемасьцяй.

На 1 красавіка 1926 г. зямельнага фонду па рэспубліцы было 537.752 дзесяціны, у тым ліку выключаных са складу дзяржаўных зямельных маемасьцяй 40.537 дзес. Большая частка гэтай апошняй плошчы не магла паступіць непасрэдна ў разьмеркаваньне сярод патрабуючых зямлі грамадзян, бо яна раней здана была аддзелам дзяржаўных зямельных маемасьцяй у арэнду розным асобам у большай частцы па доўгатэрміновых дагаворах.

У гэтых выпадках зямельныя органы, якія выпаўняюць работу па землянадзяленьню, атрымалі ад аддзелу дзяржаўных зямельных маемасьцяй не зямлю, а толькі правы здатчыка па дагавору. Якім жа чынам зямельныя органы могуць выканаць свой непасрэдны абавязак па разьмеркаваньню сярод беднаты тэй зямлі, якая знаходзіцца ў дагаворным карыстаньні розных арандатараў.

Клясавы склад гэтых арандатараў далёка не аднастайны. Адны з іх належаць да ліку безьзямельных або малазямельных грамадзян, другія выстарчальна забясьпечаны зьмлёю.

Першая катэгорыя арандатараў мае права на атрыманьне зямлі са складу запаснага фонду. Для гэтага зямельныя органы могуць надзяляць іх зямлёю ў сталае працоўнае карыстаньне з захаваньнем правіл аб нормах і спыніць такім чынам дзеяньне арэнднага дагавору. У гэтым выпадку папярэднія дагаворныя адносіны заменяцца новымі, якія прадугледжаны часткай 1 Зямельнага Кодэксу.

Другая катэгорыя арандатараў атрымаць зямлю ў сталае працоўнае карыстаньне ня можа, прычым адны з гэтых арандатараў парушаюць умовы дагавору, другія іх захоўваюць. Каб мець магчымасьць разьмеркаваць сярод беднаты тую зямлю, якою карыстаецца першая група арандартараў, зямельныя органы павінны ўзьняць да іх іскі аб скасаваньні дагавору і адабраньні зямлі. Пры гэтым належыць мець на ўвазе, што дагаворы, якія зроблены аддзелам дзяржаўных зямельных маемасьцяй з прыватнымі асобамі на суму звыш тысячы рублёў, зьяўляюцца сапраўднымі толькі ў тым выпадку, калі яны пасьведчаны ў натарыяльным парадку.

Пры незахаваньні гэтай умовы няма патрэбы ў скасаваньні дагавору. Стораны дабравольна, а пры адсутнасьці згоды —па рашэньню акруговай зямельнай камісіі павінны вярнуцца ў першапачатковае становішча, у якім яны былі раней заключэньня не сапраўднага дагавору. Зямля ў гэтым выпадку перадаецца ў распараджэньне зямельнага органу, арандатар-жа мае права забраць свае будыніны, якія могуць быць аддзелены ад зямлі, і атрымаць узнагароду за свае страты.

Калі-ж умовы дагавору, які зроблен з захаваньнем усіх неабходных фармальнасьцяй, выконваюцца арандатарамі, дык скасаваньне яго па рашэньню зямельнай камісіі можа быць зроблена толькі ў тым выпадку, калі гэта выклікаецца дзяржаўнымі патрэбамі. Да ліку гэтых дзяржаўных патрэб павінна быць аднесена надзяленьне зямлёю безьзямельных і малазямельных сялян са складу запаснага фонду, бо работа гэтая мае вялікае значэньне для дзяржавы.

Надзяленьне зямлёю і скасаваньне дагавору робяцца ў парадку земляўпарадкаваньня з захаваньнем правіл, прадугледжаных арт. 22 Зям. Код., гэта значыць: земляўпарадчыкам на грунце належнага даручэньня складаецца праэкт скасаваньня дагавору раней сканчэньня яго тэрміну, адабраньня зямлі і разьмеркаваньня яе сярод безьзямельных і малазямельных грамадзян. У земляўпарадчым праэкце павінны быць вызначаны, паводле пункту „е“ арт. 173 Зям. Код., велічыня, парадак і тэрмін сплаты арандатару яго сапраўдных выдаткаў, а таксама ўкладзеных у зямлю і нескарыстаных ім палепшаньняў. Ацэнка ўсяго таго, што павінна быць заплачана арандатару асобамі, якія атрымоўваюць яго зямлю ў парадку надзяленьня, робіцца камісіяй. Склад апошняй і парадак яе дзейнасьці вызначаны абежнікам Народнага Камісарыяту Земляробства за 28 ліпеня 1926 г. № 18.

Складзены земляўпарадчы праэкт прад‘яўляецца на агульных падставах зацікаўленым старанам і прадстаўляецца потым разам з іх скаргамі ў аруговую зямельную камісію. Яна касуе дагавор пры зацьверджаньні альбо зьмене земляўпарадчага праэкту і канчаткова вызначае пры гэтым маемасныя адносіны старон. Калі-ж скасаваньне дагавору ня будзе прызнана неабходным, зямельная камісія касуе земляўпарадчы праэкт і спыняе справу. Арандатар у гэтым разе будзе карыстацца зямлёю пакуль ня скончыцца тэрмін дагавору.

**А. Вішнеўскі.**

---

## 14. Работа камітэтаў сялянскае ўзаемадапамогі.

Камітэты сялянскіх таварыстваў ўзаемадапамогі БССР, працуючыя на аснове самадзейнасьці сялянства і маючыя сваім галоўным заданьнем арганізацыю дапамогі і самадапамогі бядняцкім незаможным гаспадаркам, абарону інтарэсаў бяднейшых груп сялянства, прыцягненьне незаможных гаспадарак у каапэрацыю ва ўсіх яе відах, у калектывізацыю працы ў прасьцейшых яе формах і г. д., за 5 год свае работы даказалі сваю жыцьцяздольнасьць, шырока разгарнулі сваю дзейнасьць і дасягнулі значных посьпехаў асабліва за апошні 1925-26 г. Аб гэтым сьведчаць наступныя данныя па паасобных галінах работы камітэтаў ўзаемадапамогі (данныя даюцца за 1925-26 г.).

Усяго на 1 кастрычніка 1926 г. ў БССР (апрача Гомельскае і Рэчыцкае акруг) налічваецца 1213 таварыстваў сялянскае ўзаемадапамогі, якія яднаюць 21.755 вёсак, 596.799 двароў і 1.344.964 членаў.

У Гомельскай і Рэчыцкай акругах налічваецца 578 таварыстваў, якія яднаюць 42.182 гаспадаркі. У Гомельскай і Рэчыцкай акругах структура арганізацыі таварыстваў сялянскае ўзаемадапамогі інакшая, як у другіх акругах БССР. Там таварыствы ўзаемадапамогі арганізаваны ня пры сельскіх саветах, а ў кожнай вёсцы, у якой налічваецца ня менш 80 двароў.

Такім чынам па ўсёй БССР на 1 кастрычніка 1926 г. налічваецца 1791 таварыства сялянскае ўзаемадапамогі, якія яднаюць 21.755 вёсак, 638.781 двароў і 1.387.146 членаў таварыстваў.

Да 1925-26 г. таварыствы сялянскае ўзаемадапамогі толькі арганізоўваліся, але юрыдычна яны яшчэ ня былі аформлены. Да 1 кастрычніка 1926 г. юрыдычна аформлены праз рэгістрацыю 345 таварыстваў (апроч далучаных акруг).

Як арганізацыйная дзейнасьць, так і матар'яльнае становішча таварыстваў сялянскае ўзаемадапамогі з кожным годам узмацняецца. Узяты цьвёрды напрамак да пераходу ўсіх камітэтаў ўзаемадапамогі на плянавую работу. Для патаненьня і спрошчаньня апарату былі рэарганізаваны акруговыя камітэты сялянскіх таварыстваў узаемадапамогі. Дзякуючы гэтай рэарганізацыі памяншаюцца выдаткі на ўтрыманьне штату акруговых апаратаў: замест 36.180 р.—14.000 р. Наладжана сувязь з мясцовымі савецкімі і партыйнымі органамі, кіраваньне з боку апошніх работаю камітэтаў сялянскае ўзаемадапамогі выстарчальнае. Сельскія і раённыя камітэты ўзаемадапамогі прымаюць актыўны ўдзел у рабоце каапэрацыйных органаў, у перавыбарчай кампаніі саветаў, а таксама ў кампаніях: падатковай, дню лесу і іншай. Паляпшаецца таксама дзейнасьць рэвізійных камісій пры камітэтах ўзаемадапамогі. На працягу году рэвізійнымі камісіямі было выяўлена 46 растрат сродкаў камітэтаў сялянскае ўзаемадапамогі на агульную суму 1852 р. Злачынцы прыцягнуты да адказнасьці.

Матар'яльнае становішча камітэтаў сялянскае ўзаемадапамогі з кожным годам узмацняецца. На 1 кастрычніка 1926 г. налічваецца: збожжа наліччам— 33.879 пудоў, у пазыках 206.656 пуд., грошай 99.034 руб. наліччам, у пазыках—69.275 руб. Апрача гэтага, па далучаных Гомельскай і Рэчыцкай акругах на 1 кастрычніка 1926 г. налічваецца збожжа наліччам 5.935 пуд., у пазыках—22.826 пуд., грошай—12.288 руб. наліччам, у пазыках—12.082 р. Усяго фондаў камітэтаў сялянскае ўзаемадапамогі на 1 кастрычніка 1926 г. (як наліччам, так і ў пазыках) лічыцца: збожжа—269.297 пуд., грошай —192.679 р.

Для задавальненьня насяленьня насеньнем у часе пасеўных кампаній камітэтамі сялянскіх таварыстваў узаемадапамогі арганізоўваліся натуральныя насенныя дзяржаўна-грамадзкія фонды. Такія фонды арганізоўваліся за дзяржаўныя сродкі пры раённых камітэтах і пры сельскіх саветах за ўласныя сродкі апошніх. Вясною 1926 г. было загатавана насеннага натуральнага фонду 160.530 пудоў, з іх 65.420 пуд. на дзяржаўныя сродкі і 105.110 пудоў—на ўласныя.

Камітэты сялянскіх таварыстваў узаемадапамогі маюць таксама ў сваім карыстаньні шэраг прадпрыемстваў. На 1 кастрычніка 1925 г. камітэты мелі 373 прадпрыемствы, а на 1 кастрычніка 1926 г.—464 прадпрыемствы, з іх 437 уласных і 27 арандаваных. Такім чынам мы бачым, што прадпрыемстваў за год павялічылася на 91. З усіх праўпрыемстваў 352 зьяўляюцца дапаможнымі сельскай гаспадарцы і 112 прадпрыемстваў зьвязаных з сельскаю гаспадаркаю. Большае месца з усіх прадпрыемстваў займаюць: пракатныя пункты (211), сады (66), цагельні (37), вадзяныя млыны (24), кузьні (25), паравыя млыны (11) і г. д. Амаль што ўсе буйныя прапрыемствы, як: млыны, цагельні і інш., знаходзяцца ў карыстаньні раённых камітэтаў сялянскіх таварыстваў узаемадапамогі, а іншыя больш дробныя, як: пракатныя пункты і г. д:, знаходзяцца ў карыстаньні сялянскіх камітэтаў ўзаемадапамогі. Кошт уласных прадпрыемстваў камітэтаў дасягае 196.366 руб. Найбольш прыбытковымі прадпрыемствамі зьяўляюцца млыны, крупадзёркі, цагельні, маслабойні і інш. Што датычыцца пракатных і злучных пунктаў, то апошнія вялікіх прыбыткаў не даюць, але яны вельмі добра дапамагаюць бяднейшаму сялянству. За 1925-26 г. у фонды камітэтаў сялянскае ўзаемадапамогі ад прадпрыемстваў паступіла чыстых прыбыткаў 25.125 руб. і 8.136 пудоў збожжа, ня гледзячы на тое, што шмат сродкаў было патрачана на пабудоўку і рамонт прадпрыемстваў.

На прадпрыемствах камітэтаў узаемадапамогі працуе 276 рабочых, сярэдні заработак якіх 18 руб. у месяц.

Апрача прадпрыемстваў у карыстаньні камітэтаў сялянскае ўзаемадапамогі знаходзіцца 1453 дзес. зямлі (пахаці) і 762 дзес. сенажаці. У 1925-26 г. было засеена грамадзкімі сіламі 299 дзес. і 618 дзес. было аддадзена ў арэнду малазямельным членам таварыстваў бясплатна. Сенажаці часткова былі скарыстаны на ўтрыманьне злучных пунктаў, а большасьць іх была разьмеркавана паміж бядняцкімі гаспадаркамі па льготнай цане. З культурна-паказальнага боку на зямельных вучастках камітэтаў ўзаемадапамогі вялікіх дасягненьняў яшчэ няма. Прычынаю гэтаму зьяўляецца тое, што пры адводзе камітэтам узаемапамогі зямельных вучасткаў зямля даецца кепскае якасьці, а таксама і тое, што камітэты ня маюць магчымасьці належна ўгнаіць глебу. Але ня гледзячы на ўсе гэтыя перашкоды на зямельных вучастках камітэтаў у многіх раёнах закладзены паказальныя вучасткі (Случчына і Калінінщчына) з штучным угнаеньнем і вынікі ёсьць здавальняючыя. Былі выпадкі, калі сялянскія камітэты ўзаемадапамогі атрымлівалі прэміі на выстаўках. За 1925-26 г. ад зямельных вучасткаў камітэтаў атрымана прыбыткаў 13.344 рублі і 8.299 пуд. збожжам.

На працягу 1925-26 г. быў праведзены падлік і ацэнка ўласнае маемасьці камітэтаў сялянскае ўзаемадапамогі. Па ўсёй БССР ўся маемасьць камітэтаў ацэньваецца ў 305.332 рублі. Найбольшы кошт маемасьці прыпадае на прадпрыемствы, дапаможныя сельскай гаспадарцы, як: млыны, цагельні, пракатныя пункты і насенныя магазыны.

Увесь фонд камітэтаў сялянскіх таварыстваў узаемадапамогі БССР на 1 кастрычніка 1926 г. складаецца з 345.638 пудоў збожжа і 441.198 рубл. грашмі.

Камітэтамі сялянскіх таварыстваў узаемадапамогі праводзілася і праводзіцца вялікая работа ў галіне дапамогі бяднейшаму сялянству ў часе пасеўных кампаній. Як ужо было зазначана вышэй, у

часе вясеньняй пасеўнай кампаніі 1926 г. камітэтамі ўзаемадапамогі было загатавана 160.530 пудоў насеньня, якое было выдадзена членам таварыстваў узаемадапамогі ў відзе пазычкі і задаволена 46.765 бядняцкіх гаспадарак. Апрача гэтага 5.833 бядняцкім гаспадаркам было дадзена 17.508 рубл. на закупку насеньня. Такім чынам было задаволена насенным матар'ялам 52.598 бядняцкіх гаспадарак. Было атрымана ад вайсковых часьцей і разьмеркавана паміж гаспадаркамі бяз коняй—членамі таварыстваў узаемадапамогі – 354 кані.

Пры пасеве ў часе вясеньняй пасеўнай кампаніі дадзена дапамогі працаю 8.581 гаспадарцы: людзьмі 7.360 дзён і коньмі 3.746 дзён. Пры правядзеньні васеньняй пасеўнай кампаніі камітэтамі сялянскіх таварыстваў узаемадапамогі было дадзена ў пазыку насеньня 1280 пуд. 222 гаспадаркам, дадзена дапамогі працаю 406 гаспадаркам, пры гэтым затрачана дзён: людзьмі 376 і коньмі 175, апрацавана 92 дзес. зямлі, ачышчана 43.636 пуд. насеньня і заменена на лепшае насеньне 400 пуд. жыта.

Камітэтамі сялянскае ўзаедапамогі праводзіцца таксама падрыхтоўка і да вясеньняе пасеўнае кампаніі ў бягучым годзе. Паводле зьвестак на 1 красавіка г. г. па раённых і сельскіх камітэтах загатавана 209.800 пуд. рознага насеньня і 97.484 руб. грашмі (з прычыны таго, што яшчэ не ад усіх раёнаў атрыманы зьвесткі, можна лічыць, што насеньня загатавана больш). На тыя сродкі, якія ёсьць у камітэтаў сялянскае узаемадапамогі, на мясцох загатаўляецца насеньне праз сельска-гаспадарчую крэдытную каапэрацыю. Трэба адзначыць, што больш пасьпешна праходзіць падрыхтоўка да пасеўнае кампаніі ў Калінінскай, Полацкай, Менскай, Магілёўскай і Бабруйскай акругах.

Па ўсёй БССР (за выключэньнем Гомельскай і Рэчыцкай акруг) зарэгістравана 110.793 бядняцкія гаспадаркі, якія патрабуюць той ці іншай дапамогі. З гэтага ліку: гаспадарак інвалідаў—9.274, сямей чырвонаармейцаў—7.602, удоў і сірот інвалідаў—7.419, гаспадарак бяз коняй—34.525, пагарэльцаў—2.761 і інш. бядняцкіх—49.212 гаспадарак.

За пэрыяд з 1 кастрычніка 1925 г. да 1 кастрычніка 1926 г. (уключаючы вясновую і васеньнюю пасеўныя кампаніі) было дадзена дапамогі:

а) дадзена членам таварыстваў ўзваротных пазычак насеньнем і на закупку жывога і мёртвага інвэнтару—52.820 гаспадаркам 160.530 пуд. збожжам і 62.363 рубл. грашмі;

б) 2.938 гаспадаркам дадзена беззваротнай дапамогі: 1538 пуд. збожжам і 8897 рубл. грашмі;

в) 9.041 гаспадарцы дадзена дапамога працаю: апрацавана 1.450 дзес., пабудавана 157 будынкаў;

г) дадзена 58 гаспадаркам вёскі Судабоўкі Смалявіцкага раёну Менскае акругі, пацярпеўшым ад страты жывёлы—908 рубл. дапамогі.

Усяго дадзена дапамогі на працягу году 64.857 гаспадаркам.

Апрача гэтага бяднейшым членам таварystваў узаемадапамогі пры ўдзеле камітэтаў давалася дапамога: юрыдычная, мэдычная, вэтэрынарная, разьмяркоўваліся лясныя матар'ялы па льгоце, льготы па сельска-гаспадарчаму падатку, льготы па страхоўцы і г. д.

З усіх відаў дапамогі кепска праводзіцца дапамога працаю з прычыны таго, што не ва ўсіх сельскіх камітэтах узаемадапамогі арганізаваны працоўныя дружыны і сялянская маса на гэтую справу глядзіць яшчэ, як на нешта непатрэбнае.

Аднэй з задач, якія стаяць перад камітэтамі сялянскіх таварystваў узаемадапамогі, зьяўляецца прыцягненьне незаможных гаспадарак у каапэрацыю ва ўсіх яе відах. На 1 кастрычніка 1925 г. было каапэравана праз камітэты сялянскіх таварystваў узаемадапамогі 9.704 бядняцкіх гаспадаркі—членаў таварystваў узаемадапамогі. За 1925-26 г. каапэравана 9.242 гаспадаркі, на што затрачана сродкаў камітэтаў: 301 пуд збожжам і 8.831 руб. грашмі. Мэтад каапэраваньня ў 1925-26 г. быў зьменены. Замест таго, каб камітэты ўносілі цалкам пай за кожнага каапэраванага імі бедняка, камітэты сялянскае ўзаемадапамогі складаюць сьпісы на бядняцкія гаспадаркі, якія патрэбна каапэраваць, і, абмеркаваўшы гэтыя сьпісы разам з органамі каапэрацыі, уносяць за бедняка, які павінен быць каапэраваны, толькі ўступныя ўзносы, а паі ўносіць сама каапэрацыя за лік каапэрацыйнага фонду.

Камітэты сялянскіх таварystваў узаемадапамогі праводзяць таксама сярод сялянства культурную працу. Яны прымаюць актыўны ўдзел у культасьветных установах вёскі: школах, хатах-чытальнях і інш.

Наогул, у рабоце камітэтаў сялянскіх таварystваў узаемадапамогі трэба адзначыць наліччa наступных дасягненьняў: узмацненьне структуры сельскіх таварystваў узаемадапамогі, уяўленьне сялянскімі масамі мэт і задач гэтае арганізацыі, пераход работы камітэтаў на плянавасьць і каштарыс, ажыўленьне работы рэвізійных камісій, матар'яльнае ўзмацненьне камітэтаў, павялічэньне натуральных фондаў супроць 1924-25 г. на 80 проц. і грашовых фондаў на 100 проц., плянавае разьвіцьцё вытворчае дзейнасьці камітэтаў, павялічэньне прадпрыемстваў, дапаможных сельскай гаспадарцы на 70 проц., правядзеньне падліку і ацэнкі маемасьці камітэтаў, правільнае яе скарыстаньне, выстарчальная падрыхтоўка і правядзеньне вясеньняе пасеўнае кампаніі, пастаноўка правільнага рахункаводзтва і справаздачнасьці камітэтаў і г. д.

Але разам з гэтымі дасягненьнямі ў рабоце камітэтаў сялянскіх таварystваў узаемадапамогі ёсьць таксама шэраг недахватаў; як: слабая работа сельскіх упаўнаважаных камітэтаў узаемадапамогі і саміх сельскіх камітэтаў узаемадапамогі, невыстарчальнае правядзеньне юрыдычнага афармленьня таварystваў сялянскае ўзаемадапамогі, асабліва ў Менскай, Мазырскай і Магілёўскай акругах, мала зьвернута ўвагі на спагнаньне членскіх узносаў, яшчэ слабая сувязь камітэтаў узаемадапамогі з сельскімі саветамі, адсутнасьць здавальняючага кіраўніцтва з боку сельскіх саветаў дзейнасьцю сельскіх камітэтаў узаемадапамогі і г. д.

Зьнішчэньне гэтых недахватаў зьяўляецца аднэй з галоўных задач у рабоце камітэтаў сялянскіх таварыстваў узаемадапамогі дапаможа далейшаму разьвіцьцю і ўзмацненьню гэтае арганізацыі.

**А. М.**

---

## 15. Чарговыя задачы органаў дзяржаўнага страхаваньня.

*(Па матар'ялах абсьледаваньня НК РСІ БССР).*

Да асноўных дасягненьняў дзяржаўнага страхаваньня трэба аднесьці раней за ўсё ўзмацненьне тэмпу паступленьня страхавых плацяжоў па абавязковаму акладному страхаваньню (на I/X—1926 г. 90 проц. проціў 74 проц. за папярэдні год), чаму дапамагала болей шырокае ўцягненьне ў справу спагнаньня плацяжоў сельскіх саветаў і адначасны рост дабрахвотнага страхаваньня. Так, калі ў 1923—1924 годзе абавязковае акладное страхаваньне займала ў агульнай масе страхаваньняў 84 проц., то ў 1924—1925 годзе яно зьнізілася да 75 проц. за рахунак павялічэньня відаў дабрахвотнага страхаваньня, а на 1/X—1926 г.—да 68 проц.

Аднак, разьвіцьцё дабрахвотных страхаваньняў ідзе пераважна па шляху абслугоўваньня гораду і ахвату дзяржаўных і камунальных маемасьцяй і яшчэ ў вельмі малой ступені дакранулася вёскі. Распаўсюджаньне і то ледзь адноснае, атрымала толькі дадатковае страхаваньне (па агню, жывёле і пасевах усяго толькі ад 1,3 проц. да 9,3 проц. да колькасьці двароў і гаспадарак). Пры чым амаль што каля паловы гэтых страхаваньняў падае на адну толькі Слуцкую акругу. Паміж тым памянёны від страхаваньня быў моцна разьвіты ў БССР ў даваенны час і павінен асабліва пасьпешна разьвівацца цяпер, з прычыны льготнасьці і танізны тарыфу, каторы амаль што ўдвайне ніжэй, чым у даваенны час.

Зусім нязначнае разьвіцьцё сярод сельскага насяленьня атрымала страхаваньне жыцьця, якое налічвала ў БССР к моманту абсьледаваньня адзінкавыя рыскі. Ды і ў гарадзкіх пасяленьнях, дзе страхаваньне жыцьця разьвіваецца болей узмоцненым тэмпам і значна ўзрасло за 1926 год (да 63.000 прэмій) усё-ж па сваймў аб'ёму не перавышала к моманту абсьледаваньня 3 проц. да агульнага кантынгэнту страхаваццеляў (рабочых і служачых). Вельмі невыстарчальнае разьвіцьцё атрымалі і іншыя віды дабрахвотных страхаваньняў, у прыватнасьці, гарантыйнае, транспартнае і інш.

Упоравень з прычынамі аб'ектыўнага характру, на каторыя адпаведным чынам рэагуюць вынесеныя калегіяй РСІ пастановы (пытаньні патаненьня тарыфаў, спрошчаньня лішніх фармальнасьцяй і інш.), вялікаю перашкодаю на шляху да болей нармальнага разьвіцьця відаў дабрахвотных страхаваньняў, як у гарадзкіх пасяленьнях, так, у асаблівасьці, у вёсцы, НК РСІ прызнаны шэраг недахватаў і ў агульнай арганізацыйнай дзейнасьці Белдзяржстраху.

Раней за ўсё загружанасьць нізавой страхавой сеткі работай па абавязковаму акладному страхаваньню (налічэньне і сысканьне страхавых плацяжоў, разьмеркаваньне льгот, сысканьне нядоімкі, пені і інш.), што адхіляе ўвагу страхавых органаў ад важнейшых функцый страхаваньня, як у галіне дабрахвотных відаў страхаваньня, так і ў часьці самога акладнога страхаваньня, дзе абсьледаваньнем устаноўлен шэраг недахопаў у пастаноўцы падліку, які зьяўляецца падставай страхавое справы. Так, па рэгістрацыйна-ацэначных работах выяўлены значныя расходжаньні ў разьмерах будынкаў з розьніцай у абмеры, часам даходзячых да 2—3 мэтраў на паасобныя будынкі пры паніжаных і павышаных ацэнках. Устаноўлен недападлік аб'ектаў па жывёле і пашні з прычыны адсутнасьці інструктаваньня і назіраньня з боку агэнтаў.

Характэрна, што шэраг работ па сысканьню плацяжоў, нядоімкі, пені, разьмеркаваньню льгот і інш., паралельна праводзяцца мясцовымі савецкімі органамі па сельска-гаспадарчаму падатку, значна павялічваючы гэтым накладныя выдаткі. Згрупаваньне работы па абавязковаму страхаваньню ў руках органаў Дзяржаўнага Страхаваньня зьяўляецца прычынаю адарванасьці выканаўчых камітэтаў ад страхавое справы пры немагчымасьці для іх сваячасна і належным чынам рэагаваць на страхавую работу ў сэнсе сваячаснасьці паступленьня плацяжоў, сысканьня нядоімкі, правільнасьці разьмеркаваньня льгот, ахвату імі беднаты і г. д.

Цэнтралізацыя страхавога апарату з падпарадкаваньнем усёй страхавой сеткі аддаленаму цэнтральнаму апарату Белдзяржстраху пазбаўляе з прычыны гэтага магчымасьці падтрымліваць у належнай ступені неабходную жывую сувязь з месцамі. Устаноўлена, што паасобныя страхавыя канторы з ліку найболей слабых, не наведваліся Белдзяржстрахам у працягу $1^{1}/_{2}$—2 год. Цэнтралізаваная сыстэма адначасна зьяўляецца адной з асноўных прычын моцнага зацягваньня ліквідацыі страт часта да 1—2 месяцаў і болей (накіраваньне Агэнцтвамі на разгляд Праўленьня актаў у няпэўных выпадках).

Абсьледаваньнем адзначана таксама нягібкасьць цэнтральнага апарату Белдзяржстраху з прычыны цяжкасьці яго структуры і пашыранасьць штатаў. К моманту абсьледаваньня на аднаго супрацоўніка Праўленьня прыходзілася, ня лічачы Гомельшчыны, усяго толькі 2,3 супрацоўнікі пэрыфэрыі, пры чым кіраўнічы склад (загадчыкі і намесьнікі) займаюць у апараце 21 проц. На павялічэньне штатаў таксама аказвае ўплыў практыкуемы пасьляйдучы кантроль актаў, па сутнасьці сябе не апраўдваючы.

Кошт утрыманьня апарату з 355.622 руб. на 1/X—1925 г. павысіўся на 1/X—1926 г. да 458.044 руб., а па каштарысу на бягучы год выдаткі намечаны ў суме звыш паўмільлёна рублёў. У адносінах да паступіўшай прэміі накладныя выдаткі, уключаючы камісію, складалі на 1/X—1926 году 19,6 проц.

З мэтаю адхіленьня адзначаных недахопаў і для выраўненьня лініі Белдзяржстраху ў агульнай яго дзейнасьці, калегіяй РСІ, упоравень з дырэктывамі ў галіне апэрацыйнай работы, вынесен шэраг пастаноў арганізацыйнага характару.

Прапанавана рэарганізаваць акладное страхаваньне шляхам ускладаньня работы па акладному страхаваньню на раённыя выканаўчыя камітэты за сродкі Белдзяржстраху і пад непасрэдным кіраўніцтвам і кантролем апошняга, скасаваўшы пры гэтым існуючую сетку страхавых агэнцкіх кантор. Работу па разьвіцьцю дабрахвотных страхаваньняў весьці праз працуючую на камісійных пачатках агэнтуру, скарыстоўваючы таксама ў пэўнай меры страхавых работнікаў пры раённых выканаўчых камітэтах. Правядзеньне гэтага мерапрыемства будзе зьвязана з рэарганізацыяй дзяржаўнага апарату.

Намечана дэцэнтралізацыя работы Белдзяржстраху шляхам перадачы шэрагу функцый акруговым страхавым агэнцтвам.

Прапанавана пераглядзець структуру цэнтральнага апарату Белдзяржстраху ў старану яе спрошчаньня і скасаваньня існуючых дзяленьняў апарату на аддзелы, пададдзелы і часьці і максымальнага скарачэньня штатаў, разгрузіўшы пры гэтым штат ад шэрагу лішніх функцый.

Скарэйшае правядзеньне ў жыцьцё прапануемых Рабоча-Сялянскай Інспэкцыяй мерапрыемстваў—чарговая задача для справы эканоміі і нармальнага разьвіцьця дзяржаўнага страхаваньня.

**А. Ліўшыц.**

---

## 16. Могільнікі для жывёлы і іх значэньне ў барацьбе з пошаснымі хваробамі жывёлы.

„Трэба, каб у кожным селішчы быў правільна пабудаваны жывёльны могільнік, толькі тады і можна палепшыць вэтэрынарна-санітарнае становішча нашай вёскі“.

*(З вынікаў II-га Усебелар. Вэтэрын. З'езду.)*

### Для чаго будуюцца жывёльныя могільнікі.

З наступленьнем вясны часта зьяўляюцца пашасныя хваробы жывёлы. У некаторых мясцовасьцях пашасныя хваробы зусім не пераводзяцца. Узімку яны спыняцца, а вясною зьяўляюцца зноў. У чым-жа тут справа? Часьцей усяго—у няправільнай уборцы трупаў паўшай жывёлы.

Зараза ў трупе жывёлы захоўваецца вельмі доўга—месяцы і нават годы. Калі жывёла прападае ад пошаснай хваробы і труп яе ня прыбралі як належыць, то вясною пры размываньні вадою, зараза разносіцца ўсюды. Для ўніканьня разносу заразы трэба трупы паўшай жывёлы закопваць ў зямлю на такой глыбіні, каб іх не дасталі ні сабакі, ні дажджавая, ні сьнегавая вада, на асобна адведзеных зямельных вучастках. А для гэтага сельскай уладай ў кожнай вёсцы павінны быць пабудаваны жывёльныя могільнікі.

## Дзе трэба будаваць жывёльныя могільнікі.

Пад жывёльныя могільнікі адводзіцца вучастак зямлі, па паказаньню вэтэрынарнага доктара ці вэтэрынарнага фэльчара, па магчымасьці на высокім, сухім, сонечным месцы, воддаль ад селішч, ад пашы, вадапою і праежджых дарог. Могільнік належыць абгарадзіць парканам з жардзін ці калючым дротам, або абвесьці ровам, каб туды не заходзіла здаровая жывёла. Жывёльныя могільнікі не павінны адводзіцца ў якой-небудзь глушы, каб ня было перашкод вазіць туды трупы паўшай жывёлы і каб можна было заўсёды сачыць за становішчам могільніка.

Спраўнасьць могільніка залежыць ад таго, каб яго не размывалі вясновыя воды і не раскопвалі магіл сабакі, каб плот яго быў непраходным для жывёлы, каб унутры абгароджы была кругом канава для затрыманьня стоку з могільніку, каб ніхто ня кідаў нідзе трупаў жывёлы не закопанымі і каб усе трупы закопваліся на могільніку. Памылкова і шкодна прызвычаенасьць адводзіць і людзкія і жывёльныя могільнікі ў цяністых мясцох. Яны павінны быць, як раз наадварот, цалкам адкрыты для сонца, якое зьяўляецца сільным ворагам усякай заразы.

## Як прыбіраць трупы паўшай жывёлы.

Трупы паўшай жывёлы трэба адвозіць на могільнікі па магчымасьці на асобых калёсах і закопваць глыбока ў зямлю. Пры перавозцы трупаў трэба наглядаць за тым, каб плыўкасьці з роту, з ноздраў і задняга праходу не сьцякалі па дарозе. Для гэтага неабходна заткнуць рот і іншыя адтуліны трупу анучкаю ці пучком сена, а самы труп пакласьці на шчыльныя калёсы, падаслаўшы пад яго саломы. Каб не ляпіліся да трупу мухі, яго трэба прыкрыць таксама саломай. Калёсы, на якіх перавозіліся трупы, трэба добра абясшкодзіць. Магілы для паўшай жывёлы трэба капаць на глыбіню 3-х аршын. Перад тым, як скінуць труп у магілу, яе напаўняюць сухім хворастам ці саломай, ці наогул чым-небудзь гаручым. Потым запальваюць гэта і, калі прымецца добра гарэць, у агонь звальваюць труп. Разгарнуўшы каля трупу гаручы хвораст ці салому, засыпаюць труп зямлёю.

Гэта забясьпечвае ад распаўсюджваньня заразы ў глебе і забараняе ад выкопваньня трупу сабакамі.

Узімку наогул цяжка капаць ямы для магіл. Для гэтага з восені заўсёды належыць загатаваць некалькі ям на зіму, каб у выпадку падзяжу жывёлы, лёгка было убраць труп. Вельмі часта здараецца, што вясною на мясцох, дзе закапаны трупы, зьяўляюцца правалы, а пагэтаму трэба з прыходам раньняй вясны агледзець кожную магілу і закідаць зямлёю ўсе правалы.

## Усю паўшую жывёлу трэба закопваць толькі на жывёльных могільніках.

У нас амаль што ўсюды ў вёсках трупы паўшай жывёлы звычайна альбо закопваюцца няглыбока ў зямлю на сядзібах, альбо выкідваюцца на выганы, пашу, сенажаць і г. д., дзе расьцягваюцца сабакамі, сьвіньнямі і інш. жывёлай, пры чым у большасьці выпад-

каў з трупаў зьнімаюць скуры. Да таго часу, пакуль насяленьне не ўразумее важнасьці і неабходнасьці жывёльных могільнікаў і не пабудуе іх у кожным селішчы, няма ніякай магчымасьці спадзявацца на хуткае спыненьне пошасных хвароб жывёлы—гэтага ворага нашага жывёлаводзтва.

На гэту справу трэба нашай сельскай уладзе зьвярнуць асаблівую ўвагу і ўсюды, у кожнай вёсцы, пабудаваць жывёльныя могільнікі.

Трэба памятаць, што там, дзе пабудаваны жывёльныя могільнікі—пошасных хвароб жывёлы менш і нават зусім няма.

**М. Жарын.**

24 сакавіка 1927 г.

---

Адказны Рэдактар: **Рэдакцыйная Калегія**.